

АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА | РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

12 красавіка 2000 года
Цана 75 рублёў

№ 15 (2677)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 6 красавіка 1955 года

АФІЦЫЙНА

## ВІЗІТ У ЛІТВУ

По запрашэнню Дэпартамента нацыянальных меншасцей і эміграцыі пры ўрадзе Літоўскай Рэспублікі адбыўся рабочы візіт у Вільнюс старшыні Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь Аляксандра Білыка.

У першы дзень візіту ў ходзе афіцыйнай сустрэчы А. Білык і генеральны дырэктар Дэпартамента нацыянальных меншасцей і эміграцыі пры ўрадзе Літоўскай Рэспублікі Р. Мотузас *абмяняліся інфармацыяй па пы*таннях дзяржаўнай палітыкі ў сферы забеспячэння правоў асоб, якія належаць да нацыянальных меншасцей, стварэння спрыяльных умоў для іх жыццядзейнасці, развіцця этнічнай самабытнасці, культуры, мовы, захавання стабільных міжнацыянальных адносін на тэрыторыях Рэспублікі Беларусь і Літоўскай Рэспублікі. У ходзе перамоў бакі падкрэслілі неабходнасць умацоўваць добрасуседскія дружалюбныя адносіны, рэгулярна сустракацца і абменьвацца інфармацыяй.

У гэты ж дзень былі падпісаны Пратакол аб супрацоўніцтве паміж Дзяржаўным камітэтам па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь і Дэпартаментам нацыянальных меншасцей і эміграцыі пры ўрадзе Літоўскай Рэспублікі на 2000 год, які будзе садзейнічаць практычнай рэалізацыі падпісанага паміж камітэтам і дэпартаментам у верасні 1999 года Пагаднення аб супрацоўніцтве.

У ходзе наведвання Дома нацыянальнасцей у Вільнюсе адбылася сустрэча А. Білыка, Р. Мотузаса, пасла Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы У. Гаркуна з прадстаўнікамі беларускай дыяспары Літвы. Прэзідэнт Аб'яднання беларускіх грамадскіх арганізацый у Літве паведаміў аб рабоце, якую праводзіць аб'яднанне, умовах жыцця беларусаў і існуючых праблемах.

Прэзідэнт аб'яднання выказаў удзячнасць ад імя беларускіх арганізацый за ўвагу і дапамогу, якую аказвае Рэспубліка Беларусь і кіраўніцтва Дэпартамента нацыянальных меншасцей і эміграцыі пры ўрадзе Літоўскай Рэспублікі беларусам, што пражываюць у Літве.

А. Білык разам з прадстаўнікамі літоўскага боку, дыпламатамі беларускага пасольства сустрэўся з калектывам сярэдняй школы імя Ф. Скарыны, наведаў дзіцячы сад № 36 Вільнюса, у якім з гэтага года створана беларуская група.

За самаадданую працу па адраджэнню і захаванню беларускіх народных традыцый, развіццё роднай мовы і асветы, умацаванне сувязей паміж Літоўскай Рэспублікай і Рэспублікай Беларусь А. Білык узнагародзіў актывістаў беларускага руху ў Літве Лявона Мурашку, Рамана Вайніцкага, Алега Давідзюка, Пятра Малафея, Івана Ломаця, Аляксея Анішчыка ганаровымі граматамі.

ВІНШУЕМ!



У Міжнародны дзень тэатра на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы адбылося ўзнагароджанне выдатных дзеячаў тэатральнага мастацтва прызамі, якія заснаваны Саюзам тэатральных дзеячаў Беларусі. Галоўны — "Хрустальная Паўлінка" ўручаны народнаму артысту СССР, акцёру Акадэмічнага драматычнага тэатра імя Я. Коласа Фёдару ШМАКАВУ (на здымку).

**Фота Мікалая ПЯТРОВА.**

**Генадзь АЎЛАСЕНКА**

## БЛАКІТНЫЯ ЧАРЫ ВЯСНЫ

**Блакітныя чары...
Блакітныя мары...
На небе
то сонца,
то чорныя хмары...
Узбуджаны гоман,
куды ні зірні...
Вясновыя дні!
У гэтыя дні
распраўляе падлесак
зялёныя рукі,
каб сонца вітаць.
У гэтыя дні
ад блакітных пралесак
зямлі не відаць.
У гэтыя дні...
Толькі што я аб гэтым!!
І чары...
І мары...
Ды Божа ж ты мой!
Блакітныя чары
закончацца летам...
А лета — зімой...
І там,
дзе, як сейбіт, зямлю засявае
Вясна-прыгажуня,
там лета міне...
І восень...
А ўслед
завіруха сівая
над белай зямлёй
свой напеў адспявае...
І зноўку
вясна
напаткае мяне...**



*Першацвет.* Фота Аляксандра ДЗІДЗЕВІЧА.

СПОРТ

**ТАЭКВАНДО.** Прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі таэквандо (версія ITF) Чой Хонг Хі, даведаўшыся пра імклівае развіццё гэтага віду ўсходніх адзінаборстваў у Беларусі, разам з віцэ-прэзідэнтам Міжнароднай федэрацыі таэквандо Паксі Юнгам прыбыў у Мінск. І пасля пяці дзён знаходжання на гасціннай беларускай зямлі не расчараваўся ў гэтым.

Чой Хонг Хі ўразіла масавасць паклоннікаў створанай ім ITF версіі таэквандо: у беларускіх клубах ім займаюцца больш за тысячу чалавек. Пры гэтым самымі буйнымі з'яўляюцца мінскія і гомельскія клубы, якія выхавалі найбольшую колькасць прызёраў самых прэстыжных турніраў.

**БІЯТЛОН.** На чарговым этапе Кубка свету па біятлону ў расійскім Ханты-Мансійску доўгачаканую перамогу атрымаў Вадзім Сашурын. У спрынтарскай гонцы на дзесяць кіламетраў не было роўных беларускаму спартсмену. За паўкроку ад п'едэстала спыніўся Алег Рыжанкоў. Неблагі вынік і Рустама Валіуліна — 18 месца.

**ФІГУРНАЕ КАТАННЕ.** У французскай Ніцы прайшоў чэмпіянат свету па фігурнаму катанню. Беларусь прадстаўлялі два дуэты: спартыўная пара Кацярына Данько і Генадзь Емяльяненка і танцоры Аліса дэ Карбанель і Аляксандр Малкаў.

**Каця МАЗАКОВА.**

ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

### УКРАІНА

Шаноўная рэдакцыя "Голасу Радзімы"!

Вось ужо дзевяць месяцаў я выпісваю вашу газету і вельмі цешуся, што маю такую магчымасць. Родам я з Гомельскай вобласці, але воляю лёсу апынуўся на Украіне.

З вялікай асалодаю чытаю родны "Голас", Бацькаўшчына становіцца бліжэй. Асабліва падабаецца рубрыка "Беларусы ў свеце" і "Гасцёўня", дзе можна даведацца пра жыццё суайчыннікаў на Беларусі і за мяжой.

Хацеў бы выказаць шчырую падзяку ўсяму калектыву рэдакцыі вашай газеты за творчую працу.

**P.S.** Я даведаўся, што выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" ўжо выдала восем тамоў. Я прыдбаў шосты і восьмы тамы, а вось папярэдніх нідзе не знайшоў. Ці магчыма падпісацца на "Беларускую энцыклапедыю" з Украіны? Як можна набыць папярэднія тамы? Я гатоў заплаціць і за перасылку.

**Сяргей ЯЦКЕВІЧ.**
Марыупаль.

**Ад рэдакцыі.** На пытанні наконт "Беларускай энцыклапедыі" на старонках газеты ў хуткім часе будуць змешчаны адказы.

### РАСІЯ

Паважаная рэдакцыя!

Вельмі прашу апублікаваць маё пісьмо. З дзяцінства мяне вабіць усё, што звязана з Беларуссю, яе культура, яе цудоўны народ. Я хацеў бы перасяліцца на Беларусь, можна ў сельскую мясцовасць, знайсці працу і жыллё, пазнаёміцца з людзьмі. Мару, каб Беларусь стала маёй другой Радзімай. Я разумею беларускую мову, з задавальненнем чытаю вашу газету.

Калі хто-небудзь можа дапамагчы ў здзяйсненні маёй мары, хай напіша. Мне 29 гадоў. Мой адрас: 600009, Расія, г. Уладзімір, вул. Паліны Асіпенкі, дом 18, кв. 14.

**Ілля ФАМІН.**

УРАДЖАЙ





Ізноў на вёсцы гарачая пара: цэлы дзень у полі, цэлы дзень з зямлёй. Для механізатара калгаса "Аснежыцкі" Пінскага раёна Васіля САМКУТА гэта паўтараецца ўжо дваццаць гадоў запар. Сёлетней вясной яму давядзецца падняць сваім магутным "Кіраўцам" больш за тысячу гектараў яравога поля.

Там жа, на Піншчыне, адныімі з першых у Брэсцкай вобласці пачалі сеў ячменю ў калгасе "Дружба народаў". Летась тут атрымалі 21,3 цэнтнера збожжа з гектара, сёлета спадзяюцца на 26,4 цэнтнера. Зараз пачалася вясенняя пасяўная ва ўрочышчы "Росы". Тут працуюць новыя беларускія трактары МТЗ-1221.

**Фота Рамана КАБЯКА.**

АСПЕКТ ПРАБЛЕМЫ

# АДВЕСЦІ БЯДУ

Наркотык. Пачуўшы сёння гэтае слова, мы не палохаемся, мы *яшчэ, на шчасце, незнаёмыя* блізка з бядой нашай планеты ў тым памеры, у якім яна захліснула іншыя краіны. Але ў Беларусі вядзецца актыўная праца, скіраваная на прафілактыку распаўсюджвання наркаманіі. Створаны міжведамасныя саветы пры абласных і раённых выканкамах. Ажыццяўляюцца адпаведныя дзяржаўныя праграмы, умацоўваюцца інспекцыі па справах непаўналетніх, наладжаны сувязі са службамі бяспекі дыскатэк і начных клубаў, да ўзаемадзеяння запрашаюцца вядомыя артысты і спартсмены, выдаюцца плакаты, транслююцца відэаролікі. Не застаюцца ў баку і школы, дзе на сённяшні дзень працуюць 2 200 псіхолагаў і 2 100 настаўнікаў-псіхолагаў.

І тым не менш, на ўліку ў Мінску сёння знаходзіцца 4 310 чалавек. З іх 146 — падлеткі. Каб атрымаць прыблізную агульную колькасць наркаманаў у краіне, трэба павялічыць гэтую лічбу ў 10—20 разоў. Што ж датычыць сумна вядомых Салігорска і Светлагорска, то тут значная частка моладзі хаця б адзін раз ужывала які-небудзь наркотык.

Тыя, хто жыве за кошт збыту наркотыкаў, настойліва шукаюць пакупнікоў "тавару" на тэрыторыі Беларусі. За 1999 год колькасць гераіну і гашышу ўзрасла па факту ў два разы, амфітаміну па факту ў два разы, па вазе — у шэсць разоў.

Эксперт і ўжыванне наркотыкаў выклікаюць рост злачыннасці. Так, 49 працэнтаў наркаманаў маюць судзімасці, з іх 16,9 працэнта — па дзве і болей. На жаль, апошнім часам назіраецца павелічэнне колькасці наркаманаў сярод студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў.

Нельга не адзначыць сувязь наркаманіі і ВІЧ-інфекцыі. Праз брудныя шпрыцы СНІД трапляе да 89,6 працэнта выпадкаў, палавым шляхам — 9,7 (Светлагорск). Паказальнік для Светлагорска — 170 выпадкаў на 10 000 чалавек, тады як па рэспубліцы — 2,46.

Каб штосьці прадухіліць, трэба добра ведаць, што ж правакуе непажаданыя рэчы і з'явы. Да асноўных прычын распаўсюджвання наркаманіі некаторыя адносяць цікаўнасць падлеткаў або проста "няма чаго рабіць". Але ёсць і больш сур'ёзныя абставіны: дыскамфорт у сям'і, адсутнасць даверу, неспланаванасць вольнага часу. Дзіця, незнаёмае з праблемамі і трывогамі бацькоў, таксама не пасвячае іх у свае сакрэты і задавальняецца жыццём дваровай групоўкі.

Што трэба рабіць, каб абараніць дзяцей ад гэтай жахлівай навалы? Галоўны інспектар Міністэрства адукацыі Беларусі Лідзія Барысік лічыць: неабходна займаць дзяцей, абуджаць цікаўнасць да працы, арганізоўваць летнікі, падтрымліваць валанцёрскі рух.

**Злата ГУРЫНОВІЧ.**

СІТУАЦЫЯ

# ЦІХА МІЖ САБОЮ МЫ ВЯДЗЕМ РАЗМОВУ...

**29 сакавіка ў фае сталічнай канцэртнай залы "Мінск" прайшло першае пасяджэнне прадстаўнікоў арганізацый, якія далі згоду на ўдзел у мерапрыемстве, што названа "шырокім грамадска-палітычным дыялогам". Паводле інфармацыі рабочай групы па падрыхтоўцы дыялога, аб намеры ўдзельнічаць у ім заявілі больш за 90 палітычных і грамадскіх аб'яднанняў краіны.**

Ідэя "шырокага грамадска-палітычнага дыялога" з'явілася як альтэрнатыва працэсу перамоў, на якім настойвалі і працягваюць настойваць апазіцыйныя палітычныя партыі і міжнародныя арганізацыі. У мінулым годзе вакол наладжвання перамоў паміж апазіцыяй і ўладамі было паламана нямала коп'яў, але пачаць перамовы так і не ўдалося. У самы апошні момант Прэзідэнт даў "адбой".

Нагадаю, што за перамовы выказваліся і міжнародныя арганізацыі. У прыватнасці, адной з галоўных задач Кансультатыўна-назіральнай групы Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе, якая дзейнічае ў Мінску, было наладжванне менавіта падобных перамоў. Летам 1999 года, напярэдадні заканчэння пяцігадовага тэрміну паўнамоцтваў, Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка на сесіі Парламенцкай асамблеі АБСЕ ў Санкт-Пецярбургу разам з кіраўнікамі 53 іншых краін падпісаў рэзалюцыю па Беларусі, у якой таксама пацвердзіў прыхільнасць да палітычных перамоў. Пазней краіны — удзельніцы АБСЕ ўжо ў Стамбуле, дзе таксама прысутнічаў беларускі лідэр, заявілі аб ранейшай пазіцыі адносна неабходнасці наладжвання перамоў як найбольш эфектыўнага шляху па выхаду Беларусі з палітычнага і канстытуцыйнага крызісу.

Але ўжо сёлета Прэзідэнт краіны даў зразумець, што перамоў з апазіцыяй не будзе. Выступаючы на адной з нарад, Лукашэнка заявіў, што лічыць ідэю наладжвання перамоў спробай стварыць моцную апазіцыю ў Беларусі. Ён падкрэсліў, што ніколі не пойдзе на гэты крок. Але ў якасці альтэрнатывы перамовам прапанаваў распачаць у грамадстве памянёны дыялог з прыцягненнем максімальнай колькасці ўдзельнікаў. Ён нават прызначыў тэрмін пачатку гэтага мерапрыемства — 1 сакавіка. Такім чынам, уладныя структуры атрымалі сігнал і пачалі арганізоўваць дыялог.

У першую чаргу была створана рабочая група, якую ўзначаліў першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Уладзімір Русакевіч. У склад групы ўвайшлі яшчэ некалькі прадстаўнікоў выканаўчай улады і прэзідэнцкай Адміністрацыі. З шэрагу кіраўнікоў тых грамадскіх арганізацый, якія першымі адгукнуліся на ідэю правядзення дыялога, была сфарміравана ініцыятыўная група. Менавіта паміж рабочай і ініцыятыўнай групамі ўвесь месяц ішлі перамовы. Бакі спрабавалі дамовіцца адносна правілаў вядзення дыялога — выпрацоўвалі праект рэгламенту гэтага мерапрыемства.

З 18 дзеючых у Беларусі палітычных партый на ініцыятыву ўладаў не адгукнуліся толькі пяць арганізацый. Але гэта найбольш масавыя апазіцыйныя партыі: партыя Беларускага народнага фронту, Аб'яднаная грамадзянская партыя, Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя "Народная грамада", Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада і Ліберальна-дэмакратычная партыя. Яны па-ранейшаму настойваюць толькі на правядзенні "канкрэтных перамоў, а не абстрактнага дыялога". Некаторыя партыі да гэтага часу застаюцца ў няпэўным становішчы. Такім чынам, пераважная колькасць удзельнікаў дыялога — грамадскія арганізацыі і прафсаюзы, якія, паводле айчыннага заканадаўства, не маюць права займацца палітыкай. Прыцягненне да дыялога менавіта гэтых грамадскіх арганізацый сведчыць, што палітычныя пытанні могуць і не дамінаваць падчас аб'яўленага мерапрыемства.

Па гэтай жа прычыне будучыня дыялога пакуль бачыцца цьмянай. Калі ў працэсе перамоў, якія летась амаль ужо пачаліся (ва ўсякім выпадку, работа экспертных груп ад апазіцыі і ўладаў мела пэўныя вынікі), прадугледжвалася выпрацоўка агульных падыходаў па ўдасканаленню выбарчага заканадаўства, усталяванне атмасферы даверу паміж рознымі палітычнымі сіламі і вырашэнне пытання доступу апазіцыі да дзяржаўных СМІ, то задачы дыялога крыху іншыя. Яны тлумачацца менавіта колам удзельнікаў, у кожнага з якіх ёсць уласныя інтарэс. Ужо зараз для шырокага абмеркавання прапануецца каля дзесяці злабадзённых пытанняў жыцця беларускага грамадства. Але пакуль ніхто не ўяўляе, як можна абмяркоўваць гэтыя пытанні паміж сотняй чалавек.

Пра складаную будучыню дыялога засведчыла і першае пасяджэнне яго ўдзельнікаў. Яно адбылося якраз пасля падзей 25 сакавіка. Нагадаю, што ў гэты дзень апазіцыя збіралася правесці шэсце і мітынг, прымеркаваныя да 82-й гадавіны абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Але, забараніўшы шэсце, улады ў той жа час накіравалі да магчымага месца збору дэманстрантаў — плошчы Якуба Коласа — значную колькасць міліцыі і салдат унутраных войскаў, бронетранспарцёры, вадамёты і пажарныя машыны. Гэта моцна напалохала абстаноўку. І хаця прымяненне сілы на справе не мела падстаў, міліцыі было знойдзена прымяненне. Сіламі праваапарадку ў раёне плошчы затрымалі больш за 200 чалавек, сярод якіх апынулася шмат людзей, што не мелі дачынення да акцыі. У грубай форме былі затрыманы 35 журналістаў, міжнародныя назіральнікі, апаратам расійскіх тэлеканалаў сапсаваны тэлекамеры. Такім чынам, у сувязі з неправамернымі дзеяннямі міліцыі, што пасля прызнала і Міністэрства ўнутраных спраў, у Мінску адбыўся моцны скандал. Чарговы раз, у тым ліку і на міжнародным узроўні, загаварылі пра факты парушэння правоў чалавека ў Беларусі.

Такім чынам, 29 сакавіка частка прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый прапанавала абмеркаваць менавіта падзеі 25 сакавіка. Але большасць удзельнікаў пасяджэння палічыла больш важным арганізацыйнае пытанне зацвярджэння праекта рэгламенту дыялога, а не праблему парушэння *правоў чалавека*. Дарэчы, у знак пратэсту супраць дзеянняў міліцыі ад удзелу ў дыялогу адмовіліся некалькі арганізацый. Напрыклад, прадстаўнікі Беларускага хельсінкскага камітэта так і не з'явіліся ў фае канцэртнай залы Мінск. А старшыня Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў заявіў, што прыпыняе свой удзел у дыялогу да таго часу, пакуль не будуць аб'яўлены вынікі службовага расследавання адносна дзеянняў міліцыі 25 сакавіка ў дачыненні да мірных грамадзян.

Такім чынам, сярод удзельнікаў дыялога засталіся не больш чым пяць палітычных і грамадскіх арганізацый, якія маюць альтэрнатыўныя і адрозныя ад уладных пункты погляду на развіццё падзей у Беларусі. Астатнія ж арганізацыі, якія не маюць прынцыповых разыходжанняў з пазіцыяй уладаў, хутчэй за ўсё выкарыстоўваюць дыялог у мэтах павышэння свайго рэйтынгу і ў мэтах самарэкламы.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

ЗАГАРТОЎВАЕ «ТРЫЯДА»



Для аднаўлення сіл былых пацыентаў дзіцячай бальніцы ў Брэсце ўрачом-рэаніматолагам Сяргеем Еўдалюком быў створаны аздараўленчы клуб "Трыяда", дзе дзеці і падлеткі ва ўзросце ад 9 да 17 гадоў займаюцца гімнастыкай у-шу, музыкай і англійскай мовай. Справа ў тым, што Сяргей Віктаравіч — прэзідэнт абласной арганізацыі у-шу, на працягу многіх гадоў займаецца вывучэннем уздзеяння гімнастыкі на фізічнае развіццё дзіцяці і яго мозг. Сёння практычна ўсе дзеці, якія займаюцца ў клубе, — чэмпіёны і неаднаразовыя прызёры рэспубліканскіх і міжнародных спаборніцтваў у Францыі, Венгрыі, Чэхіі, Харватыі, Балгарыі, Расіі. Зараз яны збіраюцца ў Галандыю і на Усепольскі чэмпіянат, дзе сустрэнуцца ў складзе зборнай з камандамі Польшчы, Сінгапура і Галандыі.

НА ЗДЫМКУ: практыкаванне у-шу выконвае чэмпіён, уладальнік Кубка рэспублікі, кандыдат у майстры спорту Сяргей ГУЦ.

**Фота Рамана КАБЯКА.**



## САЦЫЯЛЬНЫ РАКУРС





### КЛОПАТ ПРА СТАРАСЦЬ

Вялікі клопат пра адзінокіх і састарэлых непрацаздольных грамадзян праяўляюць работнікі Дома ветэранаў пры Брэсцкім тэрытарыяльным цэнтры сацыяльнага абслугоўвання пенсіянераў. Асобыя адносіны да сябе гэтыя людзі адчуваюць пры наведванні пакоя адпачынку і салона міласэрнасці, бібліятэкі, мініцарквы, цырульні...

НА ЗДЫМКАХ: на прагулцы; Антаніна САЧУК у свае 90 гадоў рада падзяліцца ўспамінамі з сацыяльным работнікам Таццянай ЧЭРАЗАВАЙ; пенсіянеры — пастаянныя чытачы ў філіяле № 10 гарадской бібліятэчнай сістэмы.

**Фота Рамана КАБЯКА.**



## ПЕРСПЕКТЫВЫ

**ГРАНТ У ПАДТРЫМКУ ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ.** Грант ад амерыканскага фонду "Еўразія" атрымаў Полацкі рэгіянальны цэнтр падтрымкі прадпрымальніцтва. Гэта тым больш важна, што ў радыусе дзеяння з шасці тысяч зарэгістраваных прадпрымальнікаў толькі менш за 300 займаюцца вытворчай дзейнасцю.

**ЯКАСЦЬ МІНСКАЙ ГАРЭЛКІ ПАЦВЯРДЖАЕ "190 9001".** Сертыфікат сістэмы "190 9001" уручаны мінскаму віна-гарэлачнаму заводу "Крышталь". Гэта значыць, што прадукцыя прадпрыемства адпавядае самым высокім стандартам. Да гэтага часу такі сертыфікат у рэспубліцы меў толькі Брэсцкі лікёра-гарэлачны завод.

НА ЗДЫМКУ: галоўны тэхнолаг завода "Крышталь" Аляксей РУБЕЦ дэманструе прадукцыю.



Фота Віктара ТАЛОЧКІ.

## МЕРКАВАННЕ

**ЛІЦЭНЗІІ НА ПРАВА БУДАЎНІЦТВА І РЭКАНСТРУКЦЫЮ ПЕЧАЎ У БЕЛАРУСІ МАЮЦЬ ПЯЦЬ ФІРМ.** Згодна з зацверджаным Міністэрствам па надзвычайных сітуацыях палажэннем, з ліпеня мінулага года ў Беларусі ўведзена ліцэнзаванне на працы па рамонту і ўстаноўцы пячнога абсталявання. Гэты крок, на думку спецыялістаў, тлумачыцца тым, што няспраўны стан пячнога абсталявання з года ў год з'яўляецца адной з прычын пажараў, асабліва ў сельскай мясцовасці.

Як паведаміў начальнік аддзела ліцэнзавання Навукова-даследчага інстытута супрацьпажарнай бяспекі МНС Віктар Баярчук, з моманту ўвядзення палажэння ліцэнзіі на права будаваць і рамантаваць пячное абсталяванне ў Беларусі атрымала толькі пяць фірм і разглядаецца ў НДІ яшчэ каля дзесяці заявак на атрыманне ліцэнзій. Кошт ліцэнзіі складае 15 мінімальных зарплат. В. Баярчук падкрэсліў, што такія ліцэнзіі могуць быць выдадзены толькі юрыдычным і прыватным асобам, якія займаюцца прадпрымальніцкай дзейнасцю без утварэння юрыдычнай асобы. Фізічным асобам такія ліцэнзіі не выдаюцца.

Ускладняе сітуацыю з атрыманнем ліцэнзіі той факт, што выдаецца яна пасля неабходнай праверкі ведаў і навыкаў толькі ў Мінску, у органах Дзяржаўнага пажарнага нагляду. Як правіла, будаўніцтвам і рамонтам пячнога абсталявання ў сельскай мясцовасці займаюцца печнікі-самавукі, а рыхтуюць такіх спецыялістаў толькі ў адным прафесійна-тэхнічным вучылішчы, якое знаходзіцца ў Віцебскай вобласці.

Такім чынам, безліцэнзійная праца печнікоў лічыцца незаконнай як з пункту гледжання органаў пажарнага нагляду, так і з пункту гледжання падатковых інспекцый.

Ірына ГАЙ.

## ГАСЦЁЎНЯ

*Адной з найбольш цікавых праграм беларускага тэлебачання з'яўляецца, на мой погляд, ток-шоу "Сёння з вамі...". Перадача знаёміць з адметнымі асобамі, прадстаўнікамі беларускай культуры, палітыкі, медыцыны, эканомікі, бізнесу. "Сёння з вамі..." мае вельмі высокі рэйтынг у гледачоў, а поспех праграмы ў значнай меры залежыць ад вядучага. Тэму культуры ў ток-шоу вядзе Аляксандр Дамарацкі. У тым, як ён размаўляе з субяседнікам, паводзіць сябе, апранаецца, бачны чалавек з густам. Аляксандр працуе на тэлебачанні з 1972 года, 23 гады ён быў каментатарам па пытаннях культуры і мастацтва ў "Навінах", а зараз займае пасаду генеральнага дырэктара Дырэкцыі праграм БТ.*

# «СЁННЯ З ВАМІ...»
# Аляксандр ДАМАРАЦКІ

**— Аляксандр Мікалаевіч, дык што гэта за таямнічая Дырэкцыя праграм!**

— Дырэкцыя праграм курыруе ўсе праграмы Беларускага тэлебачання. Гэта штаб Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Беларусі. Дырэкцыя складаецца больш чым з 13 аддзелаў. Найбольш важныя: аддзел планавання, які састаўляе праграму тэлебачання, аддзел выпуску — рэжысёры, асістэнты, якія выпускаюць гэтую праграму, афарміцельскі аддзел, дзе распрацоўваюцца застаўкі і відэашапкі, дыктарская група. Мы практычна забяспечваем увесь эфір. Усё, што вы бачыце на тэлеэкране, праходзіць праз Дырэкцыю праграм.

**— Раскажыце пра ўзнікненне ток-шоу і як вы сталі яго вядучым.**

— Мэта праграмы цудоўная: паказаць лепшых людзей Беларусі, і гэта неабавязкова самыя папулярныя і вядомыя. Мы жадалі стварыць не аднабаковую перадачу — толькі пра кіно ці толькі пра палітыку, — а паказаць самыя розныя слаі грамадства. Нашы героі — мастакі, рэжысёры, кампазітары, рабочыя, палітыкі, кіраўнікі саўгасаў і прыватных прадпрыемстваў, урачы, настаўнікі. Мне вельмі прыемна, што праграму зараз ведаюць. Я нават баюся, каб мы не ператварыліся ў "канцэрт па заяўках": паступае такая вялікая колькасць званкоў і пісем з прапановамі запрасіць да ўдзелу ў праграме сваіх знаёмых і саслужыўцаў. А вядучым я стаў таму, што атрымаў такое заданне.

**— А ці было радасным гэта заданне!**

— Так, з аднаго боку, гэта радасць, таму што мне вельмі прыемна весці размову з маімі героямі. Я не стаміўся паўтараць, што самае цудоўнае ў жыцці — гэта чалавечыя кантакты, даражэйшага за іх няма нічога. А вось з другога боку, — гэта дадатковая нагрузка, якая забірае сілы. Але, калі выходжу ў эфір, ніхто не павінен ведаць, як я сябе адчуваю, якія ў мяне непрыемнасці. Усякае здараецца, але гэта твая работа, яе трэба выконваць прафесійна.

**— А што, на вашу думку, прафесійнасць у тэлежурналістыцы!**

— Наогул, прафесійнасць — гэта дакладнае веданне журналістам, што, як і навошта ён робіць. Любая праграма — перш за ўсё сустрэча з чалавекам. І журналіст павінен паказаць гэтага чалавека, а не сябе. Тэлежурналіст, асабліва калі гэта вядучы, павінен быць акцёрам і псіхолагам, умець адчуць чалавека, з якім вядзе гутарку.

**— З кім з вашых герояў сустрэча асабліва запомнілася, была найбольш цікавай!**

— Цікава было размаўляць з тымі, хто станавіўся адкрыццём. Магу сказаць, што для мяне гэта былі рэжысёр Мікалай Пінігін, дыктар і выкладчык Акадэміі мастацтваў Ілля Курган, ніколі не забуду таксама сустрэчы з паэтэсай Раісай Баравіковай і з народнай артысткай СССР Святланай Данілюк. Я мог бы пералічваць яшчэ шмат прозвішчаў, але цвёрда ведаю, што, калі прыходзіш у студыю, трэба пастарацца палюбіць кожнага героя. Я лічу, што без любові ў гэтым свеце нічога добрага зрабіць нельга.

**— Як вы апынуліся на тэлебачанні! Мара дзяцінства!**

— Не зусім. Я жадаў быць акцёрам. Паступаў адразу ў дзве навучальныя ўстановы: у інстытут замежных моў і на журфак універсітэта. І ў абедзве паступіў. Выбраў журфак.

**— Што з'яўляецца апорай у вашым жыцці!**

— Самае галоўнае для мяне, самы вялікі мой клопат — гэта сям'я. Я абапіраюся толькі на сваю сям'ю і з гадамі стаў глыбей разумець яе каштоўнасць. На мой погляд, калі ў чалавека няма сям'і, то ён не цалкам адбыўся як асоба.

**— Раскажыце, калі ласка, пра сваю сям'ю.**

— У мяне вялікая і дружная сям'я. Ужо 26 гадоў жывём разам: я, мая жонка, дачка, унук, цесць і цешча. У нас не бывае скандалаў ці нейкіх невырашальных сітуацый. Мне здаецца, што калі людзі паважаюць і любяць адзін аднаго, яны ўжо валодаюць такой цудоўнай якасцю, як цярпімасць, памяркоўнасць.

**— У такім разе, хто гаспадар у доме!**

— Наша сям'я традыцыйная: гаспадары — мае цесць і цешча, нашы дзядуля і бабуля, як мы іх называем. У вырашэнні важных пытанняў і праблем мы заўсёды раімся з імі.

**— Аляксандр Мікалаевіч, якую будучыню вы бачыце для свайго ўнука!**

— Адношу сябе да катэгорыі вар'яцкіх дзядуль: я вельмі люблю свайго ўнука Стасіка, яму шэсць год, ён вучыцца зараз у нулявым класе. Гэта расце мужчына, і я думаю, што ён навучыцца абараняць сваіх блізкіх, я лічу, што гэта вельмі важная якасць для мужчыны. Як кожны дзядуля, непакоюся за яго будучыню, але мне здаецца, што праз некаторы час усё будзе нармальна. Мы павінны прайсці пэўныя перыяды развіцця, нейкай неўсталяванасці, але я ўпэўнены, што мой унук будзе жыць у багатай і шчаслівай краіне. Калі захоча паехаць некуды вучыцца, паглядзець свет, я не супраць. Але лічу, што ён і тут знойдзе сваю справу і шчасце. Спадзяюся: тое, што мы называем сваім домам, гэтае панацце будзе для яго такім жа святым, як і для яго дзядулі, бабулі, бацькоў. А каб наша жыццё ўсталявалася, трэба наладжваць адносіны паміж людзьмі, станавіцца больш добрымі і чулівымі адзін да аднаго. Любыя змены трэба пачынаць унутры сябе.

**— Сярэдзіна жыцця. Якія страты! Якія набыткі!**

— Гэта час страт: з гадамі сяброў становіцца не больш, а менш, і побач застаюцца толькі самыя сапраўдныя. Збаўляешся і ад многіх мар, разумееш, што яны ўжо ніколі не здзейсняцца. Але таксама і многае набываеш: жыццёвы вопыт, мудрасць душы і самы галоўны набытак для мяне ў гэтым узросце — уменне даравацъ. Гэта вельмі важна і адначасова цяжка для любога чалавека.

**— А што збылося з таго, аб чым марылі!**

— Збылося ўсё. Прычым не ў той момант, калі я жадаў гэтага, а трошкі пазней. На жаль, нават тады, калі мне гэта было ўжо не патрэбна.

**— Які вы на экране!**

— Самае цяжкае — гэта быць самім сабой на экране. Я нічога не стваряю. Мяне параўноўваюць з рознымі вядучымі, мне гэта здзіўляе. Калі чалавек пачынае працаваць на тэлебачанні, ён часта мае нейкага куміра. Былі куміры і ў мяне. Але гэты перыяд павінен скончыцца, толькі тады малады чалавек стане добрым журналістам.

**— Як развівалася і змянялася тэлебачанне на вашых вачах!**

— За апошнія гады БТ вельмі змянілася. Мяняецца тэхніка, мяняецца і падыход да праграм, да іх стварэння, іх падачы. Але памянялася і само тэлевізійнае мысленне, знешні выгляд вядучых, дыктараў, напоўненасць праграм. Нязменным засталося адно: галоўным героем усіх нашых праграм з'яўляецца чалавек. На экране Беларускага тэлебачання, у адрозненне ад іншых каналаў, вельмі нямнога герояў і фільмаў з негатыўнай эмацыянальнай афарбоўкай. Мы імкнемся да ўдушэўнага спакою і выяўлення ў чалавеку самага добрага. Зараз ідзе тэндэнцыя адналення ТБ, з'явілася шмат маладых кадраў. Гэта радуе.

**— Якія, на ваш погляд, праграмы зараз лепшыя на БТ!**

— Я назаву праграмы, якія мне самому глядзець цікава. Прафесійная праграма "Тэлевізійны Дом кіно" з Сяргеем Кацьерам. Я лічу яго адным з лепшых вядучых. Назаву праграму "Тэленавігатар" з Паўлам Каранеўскім, які мне здаецца адным з самых перспектыўных журналістаў на БТ. Пазнавальная праграма Лiліі Хатэнкі "Музыка без межаў". Вылучыў бы яшчэ музычную праграму "Запрашэнне" з Галінай Хаймінавай. Шмат удалых выпускаў у ток-шоу "Карамболь". Вельмі падабаецца новы цыкл для дзяцей "На хвалі ўзаемаразумення". Лічу, што гэта вельмі перспектыўная праграма.

**— А чаго вам не хапае на тэлебачанні!**

— У першую чаргу, як гледачу не хапае сучаснага выгляду беларускага канала. Мне хацелася б, каб па дызайну і афармленню ён меў еўрапейскі стыль. Падругое, ужо як генеральнаму дырэктару мне не хапае людзей, якім бы я мог безаглядна даваряць, прафесіяналаў з унутранай творчай ініцыятывай. А яшчэ не хапае ўпарадкаванасці і зладжанасці ў рабоце, але гэта вырашаемыя пытанні, якія залежаць ад мяне. А наогул, хацелася б, каб наша тэлебачанне любілі гледачы.

**Гутарыла Лавінія АРЭШКА.**

**СПАДЧЫНА Заіра АЗГУРА**





У Мінску адкрыўся мемарыяльны музей вядомага беларускага скульптара, народнага мастака СССР, Героя Сацыялістычнай Працы Заіра Азгура. Размясціўся ён у былой майстэрні, дзе скульптар працаваў апошнія гады жыцця. У экспазіцыі — 420 работ. Але гэта далёка не поўны збор яго твораў. Значная частка твораў З. Азгура даваеннага перыяду загінула ў час вайны. Гэтыя работы захаваліся толькі на фотаздымках, якія можна ўбачыць у мемарыяльнай зале. Першымі наведвальнікамі новага музея сталі сябры і вучні З. Азгура, яго блізкія, беларускія мастакі і скульптары, госці з Расіі.



НА ЗДЫМКАХ: мемарыяльны музей Заіра Азгура; партрэт пісьменніка Цішкі Гартнага; знаёмства з экспазіцыяй.

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

**ГІСТОРЫЯ ПОБАЧ**

# МУЗЕЙ НА КОЛАХ

"А вось гэты сталыпінскі вагон у 1938 годзе доўгі час быў маім родным домам, — расказвае вучням з Целяхан Івацэвіцкага раёна ўбелены сівізной дзядок. — У якасці зняволенага я жыў у ім у Варкуце, Татарыі, Казахстане..."

Антон Паплаўскі — пенсіянер, доўгі час настаўнічаў у Ганцавіцкім раёне, цяпер з дачкой жыве ў Баранавічах. Вясковыя падлеткі ў той час мелі звычку збірацца па хатах, спявалі песні, расказвалі розныя вясковыя байкі. На тую бяду, Антон вазьмі ды на паўвёскі прагарлапань частушку асабістага складання:

Самалёт ляцеў,
Калёсы церліся,
Мы не звалі вас,
А вы прыперліся!

Упаўнаважаны НКУС, які прыехаў у вёску, расцаніў гэта як контррэвалюцыйны выпад супраць савецкай улады. Судзіла юнака так званая "тройка": па-першае, яна прызнала, што ў наяўнасці кампраметацыя айчыннай авіяцыі, па-другое, слова "прыперліся" зневажала чэкіста. Цяпер, праўда, стары педагог рэабілітаваны.

Дарэчы, гэта размова настаўніка з вучнямі адбылася не дзе-небудзь у школе, а ў "музеі на колах", што адкрыўся нядаўна побач з Палескім чыгуначным вакзалам у Баранавічах.

Незвычайны музей, створаны чыгуначнікамі, знаходзіцца ў падпарадкаванні мясцовага аддзялення Беларускай чыгункі, і дэманструюцца тут экспанаты вагой ад 20 да 100 тон кожны.

Вось платформа чатырохвосевая, вырабленая ў Канадзе ў 1944 годзе, якая ў Беларусь трапіла па ленд-лізу. Дакументальна зацверджана, што менавіта гэтая стальная махіна аб'ехала паў-Еўропы, пабывала з грузам нават на Далёкім Усходзе. І вось назаўсёды засталася ў якасці экспаната ў "музеі на колах" у Баранавічах. "Дык чым не месца для вывучэння гісторыі Беларусі?" — казаў мне Ілля Малюгін, навуковы супрацоўнік музея.

З гэтым пагаджаюцца ў многіх навучальных установах Брэстчыны. У прыватнасці, у музеі я бачыў навучэнцаў Баранавіцкага педагагічнага каледжа і студэнтаў мясцовага філіяла Беларускага недзяржаўнага інстытута правазнаўства, выхаванцаў Гарадзішчанскага дзіцячага дома-інтэрната, Баранавіцкай дарожна-тэхнічнай школы, гімназіі № 2 і іншых. Тут яны праходзяць практычныя заняткі па гісторыі нашай краіны, вывучаюць навукова-тэхнічны прагрэс на транспарце, знаёмяцца з асновамі экалогіі ў прамысловасці. І гэта не дзіўна: "музей на колах" у Баранавічах — гэта эканоміка, гісторыя, палітыка, ваенная дыпламатыя, міжнародныя сувязі, ахова прыроды.

Вось толькі некаторыя экспанаты: паравоз "Іосіф Сталін" 1953 года выпуску, выраблены ў польскім горадзе Познань — "жывы" металічны экспанат часоў "халоднай вайны", перавозіў ракетнае ўзбраенне; макет лакаматыва 1871 года выпуску, які першым адкрыў рух на ўчастку чыгункі Смаленск — Мінск — Баранавічы і паспрыяў росту эканомікі рэгіёна; стальныя рэйкі германскага прамыслоўца Крупа; ручная дрызіна 30-х гадоў; пасляваенны маняўровы цеплавоз, прыстанцыйныя будынкі векавой даўнасці, сучасная вагонная гаспадарка і іншыя.

Дарэчы, такі "музей на колах" пакуль што адзіны на ўсёй прасторы былога СССР. Так што прыязджайце да нас у Баранавічы на экскурсію.

**Уладзімір АЛЬГЕРЧЫК.**

**ЗАЎТРА ПАЧЫНАЕЦЦА СЁННЯ**

# ЗАПРАШАЕ «ЭТНАШКОЛА»

*Край наш —*
*дзівосны прыстанак*
*загадак і цудаў:*
*Ці то так Бог пажадаў...*

**(Мікола ГУСОЎСКІ "Песня пра зубра").**

Па добрай традыцыі эксперыментальная педагагічная пляцоўка "этнашколы" Кастрычніцкага раёна Мінска наладзіла ўрачыстасць "Пасьвяты ў школьнікі". Падзея, у якой я брала ўдзел чацвёрты раз, адпавядала лепшым традыцыям сучаснай педагогікі.

Сёння на Беларусі ідзе пошук альтэрнатыўных мадэлей адукацыі, а праграма навучання ў СШ № 89 якраз і з'яўляецца прыкладам новай мадэлі "этнашколы". Раней, як і ў большасці навучальных устаноў краіны, тут выкладанне прадметаў вялося на рускай мове. Пачынаючы з 1987 года, школа пераўтварылася ў беларускамоўную. Затым у 1993 годзе быў створаны першы мадэльны клас "Школа XXI стагоддзя — этнашкола". Пачатак гэтаму накірунку працы быў пакладзены настаўнікамі-руплівцамі на чале з тагачасным дырэктарам школы Верай Саладухай.

Тут няма дыферэнцыраванага падыходу да выбару вучняў, не праводзяцца тэсты для адбору таленавітых дзяцей. Педагогі вырашылі праблему вельмі мудра: кожнае дзіця — гэта сапраўдны талент, які трэба ўбачыць і развіць у неабходным рэчышчы. Такім чынам, кожнае дзіця можа стаць вучнем эксперыментальнага класа. Бацькі з задавальненнем аддаюць сваіх дзяцей у гэту незвычайную школу. Трэба адзначыць, што навучанне ў мадэльных класах бясплатнае, таму што ўстанову фінансуе Адміністрацыя Кастрычніцкага раёна.

Навуковы кіраўнік гэтага эксперымента — Ілья Сучкоў, кандыдат мастацтвазнаўства, дацэнт Беларускага інстытута культуры. Плён працы Ілы Іванавіча навідавоку, бо сёння мы маем у гэтым незвычайным эксперыменце каштоўныя вынікі для ўсёй Беларусі. Этназаняткі з дзеткамі праводзяцца не як пазашкольныя, а ўключаны ў вучэбны працэс. Тэатральна-гульнявая форма народнага фальклору, народны танец і музыка, мастацкая праца, выцінанка, вырабы з саломкі, гліны, вышыўка, ткацтва развіваюць у дзяцей не толькі фантазію, але і пачуццё прыгажосці. Плануецца ўвесці кавальства і пляценне з лазы. Распрацаваны сцэнарыі шматлікіх народных святаў: Каляды, Багач, Грамніцы, Камаедзіца, Ляльнік, Масленіца, Сёмуха, Жаніцьба Коміна. На агульнаадукацыйных занятках выкарыстоўваецца фальклор пры выкладанні гісторыі, матэматыкі, беларускай мовы, курса "Чалавек і свет". Дзеці вучацца іграць на баяне, дудзе, цымбалах...

На пачатку "Пасьвят" з прывітальным словам да прысутных звярнуўся дырэктар школы Пётр Мазалеўскі, які выказаў упэўненасць, што педагагічны калектыў і надалей будзе шчыра рупіцца дзеля фарміравання ў вучняў асобы грамадзяніна Беларусі. Пра гісторыю школы расказала намеснік дырэктара абаяльная Валянціна Дземідовіч.

У народзе нездарма кажуць, што на пустым неаздобленым месцы нічога не расце. Усяму ёсць пачатак. Выказванне "Новае — гэта даўно забытае старое" ў даным выпадку дапасуе як мага лепш. І тут мне хочацца нагадаць, што яшчэ на пачатку XX стагоддзя ў старажытную Вільню, тагачасны цэнтр беларускай культуры, з Варшавы пасля заканчэння настаўніцкіх курсаў прыехала маладая апантаная ідэяй нацыянальнага адраджэння Уладзіслава Станкевіч. Неабходна падкрэсліць, што па тым часе педагагічная ці асветніцкая дзейнасць на беларускай мове была забаронена царскімі ўладамі. Станкевіч распачала самаадданую працу ў прытулках, дзе выхоўваліся абяздоленыя дзеці-сіроты, а пазней — дзеці з сем'яў бежанцаў. Уладзіслава Станкевіч вучыла дзетак гаварыць і пісаць па-беларуску, развучвала з імі беларускія народныя песні, паданні, пацешкі, гульні, танцы. Гэта педагагічная дзейнасць будучай жонкі Янкі Купалы мела вялікую перспектыву ў далейшым. У савецкі час Уладзіслава Францаўна працягвала сваю працу з дзецьмі. З 1923 па 1924 год яна была ў дзіцячым садзіку № 12 кіраўніком групы "О". З 1924 па 1932 год жонка Янкі Купалы працавала ў так званым "Беларускім Ачагу № 8". Дарэчы, у яе выхоўваліся дзеці Язэпа Лёсіка — Юрык, Люця і Алеся. Уладзіслава Францаўна як выхавальніца зрабіла тры выпускі дзяцей, астатні час працавала загадчыцай дзіцячага сада. За ўклад у выхаванне падрастаючага пакалення Уладзіслава Луцэвіч была ўзнагароджана ў 1948 годзе знакам "Выдатнік народнай асветы" Міністэрства асветы БССР. Неабходна нагадаць, што на пачатку XX стагоддзя, дзякаваць Богу, сярод беларускай інтэлігенцыі было шмат аднадумцаў, якія гуртаваліся вакол легальнай культурна-асветніцкай і грамадска-палітычнай газеты "Наша Ніва". Тагачаснаму нашаніўскаму асяродку Янка Купала прысвяціў знакаміты верш "Нашай Ніве", які сёння з'яўляецца афіцыйным гімнам шасці мадэльных класаў:

Не загаснуць зоркі ў небе,
Покі неба будзе, —
Не загіне край забраны,
Покі жывуць людзі.

На "Пасьвятах" прысутныя маглі пазнаёміцца з цікавай, living рознабаковай, пазнавальнай выставай "Пуцявінамі адраджэння на Беларусі", над экспазіцыяй якой працавала выкладчыца выяўленчага мастацтва і мастацкай працы Юлія Рунцова. Вяла свята настаўніца тэатральнага фальклору Святлана Петрашкевіч. Фрагмент урока роднай мовы прадэманстравала Таццяна Няхайчык, якая разам з дзеткамі, што былі ў нацыянальных строях, вынесла ў скрыначцы нязгаснае святло, і гэты сімвал надаў мерапрыемству глыбокі філасофскі сэнс: ніколі на Беларусі не згасне святло роднага слова. Кожнае дзіця атрымала вучнёўскі білет з рук Ілы Сучкова, а прадстаўнікі пяці мадэльных класаў падаравалі вучням адметныя рэчы, якія зрабілі сваімі рукамі. Вучні-пачаткоўцы правялі паказальныя ўрокі фальклорнага танца і фальклорнага тэатра разам з настаўнікамі Вольгай Радзько, Людмілай Канцэдайла, Анатолем Крамічам, Нінай Беркутавай. Выкладчыкі музыкі Ганна Еўгіенка, Таццяна Швабовіч і Таццяна Удавенка акампаніравалі выступоўцам на працягу ўсёй падзеі. Напрыканцы вучні шасці мадэльных класаў разам з усімі прысутнымі спявалі знакаміты купалаўскі гімн (кіраўнік ансамбля Ніна Златніцкая).

Я падзяляла ўзрушанасць бацькоў, бачыла, як гарэлі чыстым святлом дзіцячыя вочы, як ружавелі іх тварыкі. Ва ўрачыстасці бралі ўдзел прадстаўнікі Сенніцкай школы імя Янкі Купалы, Вілейскай пачатковай школы № 6, якая сёлета распачала эксперымент, школы з вёскі Дзямідавічы Дзяржынскага раёна, Наваполацкай сярэдняй школы № 5. "Пасьвяты" ў СШ № 89 — гэта сапраўднае свята на Беларусі. Маштабнасць і важнасць гэтай падзеі ў тым, што ў душах дзяцей будуецца храм любові да Беларусі.

**Людміла ДАВІДОЎСКАЯ,**
**загадчыца навукова-асветніцкага аддзела музея Я. Купалы.**



**Настаўніца пачатковых класаў сельскай Галавінскай сярэдняй школы Гомельскага раёна Надзея ФЕДАРЭНКА яшчэ студэнткай музычна-педагагічнага каледжа імя Выгоцкага ў Гомелі была актывісткай гайдаўскага руху. Не дзіва, што і зараз яна ўдзельніца ўсіх маладзёжных мерапрыемстваў: традыцыйных беларускіх святаў, дзеянняў, накіраваных на абарону экалогіі, выхаванне здаровага ладу жыцця.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**



ХРЫСЦІЯНСКАЯ СТАРОНКА «ЖЫЦЦЁ І ВЕРА»

# «ГОЛАС ДУШЫ» МОЛІЦЬ ЗА БЕЛАРУСЬ



— Пахвалёны Езус Хрыстус!

— На векі вечныя!

Так сустракаюць адзін аднаго ўдзельнікі хору "Голас душы" і іх кіраўнік Таццяна Гажэўская. Напэўна большасць мінчан і гасцей сталіцы хоць аднойчы пабывалі ў касцёле святых Сымона і Алены, што на плошчы Незалежнасці. А тыя, хто прыходзіць сюды раніцай у нядзелю на службу, якая трансліруецца па рэспубліканскаму радыё, чулі галасы маладых дзяўчат і хлопцаў. Дык вось гэта і ёсць той самы хор, пра які я расказваю.

Так, сённяшняя моладзь больш захапляецца іншай музыкай. Але духоўная, народная песня жыве, і пра яе не забываюцца. Усе ўдзельнікі калектыву "Голас душы" прыйшлі сюды не пад прымусам: імі кіравала сэрца і вера ў Бога. Спяваючы, яны атрымліваюць духоўную асалоду і праслаўляюць таго, каму давяраюць.

Каля дзесяці год назад "Голас душы" складаўся з маленькіх спевакоў. Цяперашнія артысты "падабраліся" леташняй восенню. Тры разы на тыдзень юнакі і дзяўчаты (ім ад 15 да 22 гадоў) вечарам прыходзяць у Чырвоны касцёл на рэпетыцыі. Да таго ж у кожнага — школа, інстытут альбо якія-небудзь іншыя заняткі. Ёсць і абавязковая ўмова паступлення ў хор: хаця б пачатковая музычная адукацыя, што дазваляе падтрымліваць класнасць выканання.

Кіраўнік хору Таццяна Гажэўская сваім выхаванцам не дазваляе расслабляцца. І, відаць, справы ў "Голасе душы" ідуць няблага, бо за кароткі час хор аб'ездзіў з канцэртамі амаль усю Беларусь. Тры разы іх вітала Польшча. Нядаўна калектыў запрошаны на міжнародны конкурс.

Велікодным пастом у касцёле гучаць сумныя песні. Але як кранаюць гэтыя гукі! Паслухайце толькі!

— Молімся за цябе, Беларусь!

Пяе "Голас душы" сінявокай краіны.

**Таццяна ЯКУБЯНЕЦ.**

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

## ПАСЛАННІК ІРЛАНДСКАГА БРАЦТВА

У музейнай зале Цэнтра імя Ф. Скарыны адбылося чарговае пасяджэнне семінара "Духоўнасць і асвета". На гэты раз асноўным дакладчыкам на ўжо традыцыйным Скарынаўскім семінары быў шаноўны замежны госць з далёкай Ірландыі — дырэктар школы хрысціянскіх братоў горада Эністаймен брат Лім О'Мара. У сваім змястоўным дакладзе пад назвай "Хрысціянская адукацыя ў Ірландыі" ён падрабязна расказаў пра фарміраванне і развіццё хрысціянскіх адукацыйных устаноў у сваёй краіне, пра вынікі іх асветніцкай дзейнасці. Брат О'Мара паведаміў, што ён са сваімі паплечнікамі ўжо некалькі разоў з гуманітарнымі дабрачыннымі мэтамі наведваў Беларусь. Прадстаўнікі ірландскага брацтва актыўна і бескарысліва дапамагаюць хворым, абяздоленым дзецям, вывозяць іх на лячэнне ў Ірландыю. Дарэчы, добрае ўяўленне пра спецыфіку дзейнасці гэтай школы хрысціянскіх братоў даў прагледжаны ўдзельнікамі семінара спецыяльна падрыхтаваны дакументальны фільм. Аб вялікай цікавасці да брата Ліма сведчылі шматлікія пытанні.

**Эдуард ДУБЯНЕЦКІ.**

ГАЛЕРЭЯ МАЙСТРОЎ

# ДАРАГОЕ ЯЕЧКА ДА ХРЫСТОВА ДНЯ



Амаль два месяцы "чаруе " мінчанін Дзмітрый Герашчанка над звычайным курыным яйкам, распісваючы яго лікамі святых. У семнаццацігадовым узросце паспрабаваў ён гэты іканапіс на курыных яйках, афарбаваных да Вялікадня, і 33 гады развітацца з гэтым заняткам не можа.

Зрэшты, простымі малюнкамі ён упрыгожваў яйкі яшчэ ў дзяцінстве для навагодняй ёлкі: у сельскі магазін яго вёскі цацак ніколі не завозілі. Аднавяскоўцы прыносілі яму драўляныя загатоўкі, прасілі зрабіць яечка і аздобіць яго да Хрыстова дня.

— Драўляныя, канешне, мацнейшыя і больш даўгавечныя, — прызнаецца Дзмітрый Герашчанка. — Але на іх немагчыма перадаць танальнасць колераў, цяжка зрабіць малюнак аб'ёмным. Слой жа шалупайкі можна зафарбаваць нераўнамерна. Верхні зрабіць насычаным, ніжні менш прафарбаваць і так паступова дайсці да абсалютна белага. Затым раблю малюнак алоўкам і тушшу і асцярожна ўсё лішняе выскрабаю. Менавіта так рускія іканапісцы ў старажытнасці распісвалі атынкаваныя сцены храма.

— Але ж адна справа — сцяна, а іншая — крохкае яйка. Якімі інструментамі вы карыстаецеся?

— У асноўным іголкаю і лязом брытвы.

— А хіба скальпелем не зручней?

— Гэты інструмент хірургам больш падыходзіць. Для маёй працы трохі грубаваты.

— Але ж яйкі захоўваць доўга нельга — пратухнуць...

— Дык спачатку я адварваю іх у шалупінні цыбулі 20 хвілін. Ваду падсольваю. З часам яны высыхаюць. І бялок, і жаўток.

У доказ Дзмітрый Васільевіч патрос яйкам, унутры якога забрынкала, як у "кіндэр-сюрпрызе".

Цяпер у яго калекцыі засталося ўсяго шэсць яек. Было больш, але перад Вялікаднем хто-небудзь загляне, ахне, рукамі плясне — як жа такому госцю яечка не падараваць?! А іншыя — хатнія каты беглі, хвастом махнулі... Амаль як у казцы атрымалася... Жывуць разам з Дзмітрыем Васільевічам у кватэры два звычайныя, беспародныя каты.

— Прыблудзіліся, — расказвае ён. — Пашкадаваў іх, а яны з маёй калекцыяй абыходзяцца бесцырымонна. Не разумеюць сваім кашачым розумам, што творы мастацтва і мініяцюрныя, і крохкія бываюць.

Па прафесіі Дзмітрый Васільевіч — архітэктар, усё жыццё працаваў у Мінгарпраекце. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР — за калектыўны праект аднаго з лепшых у беларускай сталіцы водна-паркавых комплексаў — Сляпянскай воднай сістэмы. У складзе аўтарскай групы праектаваў цэлы шэраг паркаў у Мінску, ствараў і рэканструяваў паркавую зону ў маёнтку Радзівілаў — старадаўнім архітэктурным ансамблі ў горадзе Нясвіжы.

Да сёлетняга Светлага Хрыстова Уваскрэсення Дзмітрый Васільевіч гравіруе яйкі з новым складаным малюнкам свяціцеля Міколы-Цудатворца. Шмат дробных дэталей: прыгожая, сівая барада, выразныя вочы — усё павінна быць прамалявана на пяці сантыметрах шкарлупіны.

Для архітэктара ён, на здзіўленне, шмат ведае пра Марыю-Магдалену, Іаана-Хрысціцеля, Выратавальніка, Маці Боскую, Сергія Раданежскага, Георгія-Пабеданосца, лікі якіх свецяцца на яго крохкіх вырабах. Адчуваецца, што Дзмітрый Васільевіч ведае не толькі Біблію, але і Жыцці святых, зачытваецца старажытнарускімі кнігамі. Рэлігійным фанатам яго не назавеш, ды такіх ён і не паважае. У царкву ходзіць не часта. Аднак душа яго перапоўнена асобай верай у тое, што ўсведамленне Прыгажосці выратуе свет.

Кожны чалавек створаны па вобразу і падабенству Боскаму. Важна толькі ўсвядоміць гэта, і тады ўсё прыгожае, высакароднае ў душы справіцца са злым і непрыстойным. І твары людзей будуць напоўнены ўнутраным святлом, як лікі святых на яго крохкіх творах...

**Таццяна ХРАПІНА.**
**Фота Зінаіды МІШУРА.**

ГУТАРКІ АБ ВЕЧНЫМ

# ВОБРАЗ ЦАРСТВА БОЖАГА

**● Уладзімір КОНАН,**
*доктар філасофскіх навук*

Заснавальнікам Хрысціянскай Царквы — зямнога вобраза Царства Божага, духоўнага Раю — быў сам Ісус Хрыстос. Пасля Яго смерці, уваскрэсення і ўзнясення на неба Царкву на тэрыторыі Рымскай імперыі стварылі і духоўна кіравалі ёю апосталы, іхнія паслядоўнікі-хрысціяне. З іх фарміравалася хрысціянская іерархія — дыяканства, прасвітарства і епіскапства. Апосталы (ад грэчаскага — пасланец) — першыя хрысціянскія місіянеры, сведкі Хрыстовыя і заснавальнікі памесных цэркваў. Епіскапы — рэгіянальныя кіраўнікі гэтых цэркваў. Да прыняцця хрысціянства на Русі (пачатак у 988 годзе) сфарміраваліся асноўныя дагматы, таінствы і абрады Усяленскай Царквы, кананічныя формы царкоўнага мастацтва — паэзія і песня (у жанрах малітваў, канонаў, акафістаў, жыццяў святых і інш.), аратарскае, выяўленчае, музычнае, арнаментальна-прыкладное мастацтва, літургія, іншыя абрады.

Першыя хрысціянскія догматы і абрады склаліся яшчэ ў эпоху Хрыстова-апостальскай царквы. Папярэднік Хрыстовы Ян Хрысціцель увёў абрад хрышчэння, які пасля яго пакутніцкай смерці выконвалі апосталы, пазней епіскапы і прасвітары. Напярэдадні сваёй крыжовай смерці і ўваскрэсення на Тайнай вячэры з апосталамі Хрыстос увёў таінства еўхарыстыі — пераўтварэнне хлеба і віна ў духоўнае Цела і Кроў Хрыстовыя і прычасці гэтымі Боскімі дарамі. Паводле евангелістаў, Хрыстос — аўтар першай хрысціянскай малітвы, звернутай да Бога-айца ("Ойча наш нябесны! Свяціся імя Тваё..."). Гэтая малітва штодзённа чытаецца ўсімі вернікамі. Малітвы да Бога Айца па натхненню склалі Прачыстая Дзева Марыя ("Праслаўляе душа мая Госпада, // І ўзрадаваўся дух мой у Богу, Збаўцу Маім..."), а маці Яна Хрысціцеля Елісавета пахваліла малітваю Багародзіцу ("Добраслаўлёная Ты сярод жанчын, // і добраслаўлёны плод улоння Твайго!..").

Верагодна, яшчэ ранняе хрысціянства (пры жыцці апосталаў і першых айцоў царквы) пачало ўшанаванне гадавых Хрыстовых святаў: Нараджэнне Хрыстова (7 студзеня), Вадохрышча (Хрышчэнне Гасподняе; 19 студзеня), Праабражэнне Гасподне (19 жніўня), Узвіжанне (27 верасня) і штогодныя святы Уваскрэсення Хрыстова (Вялікдзень, паводле месячнага календара). Пазней былі ўстаноўлены Багародзічныя святы — Дабравешчанне (7 красавіка), Прачыстая (28 жніўня), Нараджэнне Прасвятой Багародзіцы (21 верасня), Увядзенне ў храм Прасвятой (4 снежня), а таксама пераходныя святы, прымеркаваныя да Пасхаліі — дня Уваскрэсення Хрыстова: Узнясенне Гасподне (на саракавы дзень пасля Вялікадня), Святой Тройцы (Пяцідзесятніца, Сёмуха, на пяцідзесяты дзень пасля Уваскрэсення Святога Духа). Да X стагоддзя былі ўстаноўлены святы, прысвечаныя праpоку і Хрысціцелю Гасподняму Яну Папярэдніку (Прадцечы, 7 ліпеня) і першавярхоўным апосталам Пятру і Паўлу (12 ліпеня). Усе даты ўказаны па новаму стылю (грамадзянскаму, альбо Грыгарыянскаму календару). Незалежна ад таго, каму прысвячаюцца святы, храмы, іконы, царкоўная музыка, спевы, малітвы, пропаведзі — усе яны славяць Хрыста, з'яўляюцца бачным (зрымым) вобразам Ісуса Хрыста, Богаўвасаблення. Да легалізацыі хрысціянства імператарам Канстанцінам Вялікім (Каля 285—337), абвешчаным Царквою роўнаапостальным, хрысціянскія брацтвы стварылі так званую катакомбную падпольную царкву і жорстка праследаваліся спачатку агентамі старазапаветнай царквы, якія бачылі ў хрысціянстве шкодную антыяўрэйскую секту, а пазней рымскімі імператарамі (Нерон, Траян і інш.), якія ўгледзелі ў дэмакратызме і гуманізме хрысціян варожую для ўстояў рабаўладальніцкай імперыі ідэалогію. Пасля падзелу ў 395 годзе імперыі на Заходнюю з цэнтрам у Рыме і Усходнюю з цэнтрам у Візантыі, перайменаванай у Канстанцінопаль (Візантыйская імперыя), рымскі і канстанцінопальскі епіскапы набылі тытулы патрыярхаў, якія спачатку былі раўнапраўнымі з іншымі кіраўнікамі хрысціянскіх цэркваў у рэгіёнах імперыі (іерусалімскім, александрыйскім і іншымі патрыярхамі). Аднак у выніку таго, што Візантыйская і Рымская імперыі ў IV стагоддзі абвясцілі хрысціянства дзяржаўнай рэлігіяй, а Візантыя стала тэакратычнай дзяржавай, Рым і Канстанцінопаль набылі значэнне цэнтраў сусветнага хрысціянства. У Рыме дамінавала лацінская, а ў Візантыі грэчаская культурныя традыцыі, у гэтых цэнтрах склаліся дзве сістэмы хрысціянскіх абрадаў, царкоўнага мастацтва, іерархіі — усходняя (грэка-візантыйская) і заходняя (рымская, альбо лацінская). Для ўсходняга хрысціянства з цэнтрам у Візантыі характэрна тэакратыя (спалучэнне свецкай і царкоўнай улады ў асобе імператара) і рэлігійная царкоўная аўтаномія рэгіёнаў (Блізкі Усход, Афрыка, славянскія рэгіёны). Заходні тып хрысціянства грунтуецца на унітарнай арганізацыі сусветнага Касцёла на чале з папам рымскім і незалежнасці іерархіі ад дзяржаўнай улады (аўтаномія Касцёла гарантуецца незалежнай папскай тэакратычнай мікрадзяржавай — Ватыканам). Паміж імі паступова ўзніклі дагматычныя разыходжанні. Галоўнае з іх — прызнанне Касцёлам папраўкі Filioqe — зыходжанне Святога Духа не толькі ад Бога Айца, але і ад Бога Сына — Ісуса Хрыста. У 1054 годзе хрысціянства падзялілася на Праваслаўную Царкву і Рымска-Каталіцкі Касцёл.



2000-годдзе хрысціянства манахі Жыровіцкага манастыра, заснаванага ў 1470 годзе, адзначаюць святочнымі малітвамі і добрымі справамі. Храмы манастыра сёння наведваюць шмат паломнікаў. Любы з іх, свяшчэннік ці звычайны чалавек, можа нават пажыць тут, прынесці карысць сваёй працай.

НА ЗДЫМКУ: паслушнік УЛАДЗІМІР расказвае наведвальнікам пра святыні манастыра.

**Фота Рамана КАБЯКА.**

## ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

ШАНОЎНЫЯ СУАЙЧЫННІКІ!

Сёлета спаўняецца 10 год з таго дня, калі на Устаноўчым сходзе было створана Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына". З гэтай нагоды звяртаемся да вас, кіраўнікі беларускіх суполак у замежжы, да кожнага, хто жыве і дыхае Беларуссю, з просьбай адказаць на пытанні нашай анкеты:

1. Што значыць узнікненне і дзейнасць "Бацькаўшчыны" для беларусаў свету? Для Вас асабіста?
2. Як Вы ацанілі б дзейнасць "Бацькаўшчыны" за гэтыя 10 год?
3. Якія грамадска-культурныя акцыі, праведзеныя "Бацькаўшчынай", прынеслі найбольшую карысць і запомніліся Вам? Што, на Ваш погляд, у дзейнасці згуртавання было недасканалым або няўдалым?
4. Калі Вы былі ўдзельнікам Першага ці Другога з'ездаў беларусаў свету, падзяліцеся сваімі думкамі і ўражаннямі.
5. Якія Вам бачацца перспектывы дзейнасці "Бацькаўшчыны" на пачатку XXI стагоддзя?
6. Вашы прапановы, пажаданні.

У дні юбілею (дадаткова павеламім) мяркуецца правесці IV навукова-практычную канферэнцыю "Культура і адукацыя беларускага замежжа", пасяджэнне Вялікай Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына", нараду старшынь беларускіх суполак замежжа, сяброўскую вечарыну. Якія яшчэ мерапрыемствы і арганізацыйныя моманты Вы прапануеце?

Будзем рады, калі Вы адкажаце на пытанні нашай анкеты падрабязна.

Вашы думкі, разважанні, прапановы, як станоўчыя, так і крытычныя, дапамогуць аб'ектыўна ацаніць зробленае, глыбей зразумець запатрабаванні як беларускіх суполак у замежжы, так і кожнага беларуса паасобку, ажывіць і зрабіць найбольш эфектыўнай і дасканалай дзейнасць "Бацькаўшчыны".

Загадзя ўдзячныя ўсім, хто адкажа на пытанні нашай анкеты.

Просім даслаць адказы да 30 траўня 2000 года на адрас: "Голасу Радзімы" ці:

220050, г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, 15. МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".

В. а. старшыні Герасімаву Валерыю.

Наш тэл./факс: (017) 289-31-94; (017) 220-93-51.

## НАВІНЫ КІНО



На кінастудыі "Беларусьфільм" здымаецца расійска-нямецкі фільм пад рабочай назвай "Пакуль мяне нясуць ногі". Кінастужка расказвае пра палоннага немца, які з Сібіры дабіраецца на радзіму. Прадзюсер фільма — знакаміты кінарэжысёр Дзмітрый Астрахан.

НА ЗДЫМКУ: ідзе падрыхтоўка да здымак. Акцёраў абсыпаюць штучным снегам.

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ.**

## ЗАМЕЖЖА

# БЕЛАРУСКАЙ АДУКАЦЫЯЙ У ЛІТВЕ

***У 1991 годзе па ініцыятыве Таварыства беларускай культуры ў Літве былі зроблены захады па адкрыцці беларускага аддзялення пры факультэце славістыкі Вільнюскага педагагічнага універсітэта і па стварэнні кафедры беларускай мовы, літаратуры і этнакультуры. Улетку таго ж года ўжо была набрана першая група з 12 чалавек. Таварыства беларускай культуры запрасіла працаваць на кафедру маладую аспірантку з Мінска — Лілею Плыгаўку. Тая закончвала аспірантуру і прыняла прапанову. Такім чынам, кафедра пачала дзейнічаць, з'явіліся першыя студэнты, выкладчыкі, бібліятэка кафедры, пісаліся навуковыя праграмы...***

***Пазней ініцыятары заняліся і арганізацыяй беларускай школы ў Вільнюсе. Яна працуе ўжо 5 гадоў. Адкрывалася дзейнасць Таварыства беларускай школы з мэтай аб'яднання беларускіх настаўнікаў. Доўгі час кіраўніком Таварыства беларускай школы была тая самая Лілея Плыгаўка, якая цяпер узначальвае кафедру. Падчас адной з паездак у Літву я зайшоў у Вільнюскі педуніверсітэт. Прыемна было пагутарыць з Лілеяй Леанідаўнай і ўспомніць час, калі ўсё толькі пачыналася, паразважаць пра сённяшні дзень кафедры.***

— Ужо ў першыя гады працы было зразумела, што недастаткова займацца беларускай адукацыяй на ўзроўні нейкіх асобных структурных элементаў: нядзельных школак, факультатываў, — прызнаецца спадарыня Плыгаўка. — Трэба было гаварыць увогуле пра адукацыю на беларускай мове для беларусаў ці для тых, хто жадаў ведаць беларускую мову, літаратуру, гісторыю, культуру. Такім чынам, намі была распачата праграма, якую мы прадстаўлялі ва ўсе ўрадавыя структуры Літвы, і на сённяшні дзень атрымалі завершаную форму сістэмы беларускай адукацыі: ад дзіцячага садзіка да вышэйшай навучальнай установы. Так атрымалася, што станаўленне гэтай сістэмы пачыналася з верхняй ступені — з ВНУ. А закончаную форму яна атрымала летась: з верасня 1999 года ў адным з нашых дзіцячых садзікаў створана беларуская група.

Апошнія 50 гадоў, пасля таго як у Літве былі ліквідаваны ўсе беларускія асяродкі, тут не было ніводнай беларускамоўнай навучальнай установы. Увогуле беларуская мова нідзе не гучала. Яна выкарыстоўвалася хіба што ў вуснай гаворцы ў тых мясцінах, дзе кампактна пражывалі беларусы. Таму вельмі важна, што адраджэнне пайшло са стварэння кафедры, з падрыхтоўкі спецыялістаў, прычым не проста знаўцаў беларускай мовы, а ўвогуле спецыялістаў-беларусістаў. Яны вельмі добра арыентуюцца як у культурным асяроддзі Літвы, так і ў праблемах беларускай культуры. Многія з гэтых людзей выраслі ў Літве, яны ўсведамляюць сябе грамадзянамі краіны, але па нацыянальнай прыналежнасці яны часткова беларусы. Ёсць і проста энтузіясты, якім цікава займацца вывучэннем беларускай культуры. Аднак, дзякуючы гэтым намаганням, беларуская дыяспара ў Літве ўпершыню за апошнія дзесяцігоддзі атрымала ўласную беларускую інтэлігенцыю.

**— А як гэтыя намаганні былі ўспрыняты літоўскімі беларусамі? Ці адразу ў іх душах з'явілася імкненне да беларускасці?**

— Я лічу, мы вельмі своечасова заняліся фарміраваннем беларускай школы. Сфера адукацыі перажывала тут страшэнны крызіс, імкліва скарачалася колькасць асабліва рускамоўных школ, шмат людзей выехала, дзяцей пачалі аддаваць у літоўскія школы. І калі раптам з'явілася беларуская школа, то яна сабрала больш за 150 заяў адразу. Гэта было нечакана нават для нас. Таму мы вырашылі адразу стварыць сярэднюю школу — былі набраны дзеці з першага па адзінаццаты клас. Матывы, па якіх бацькі аддавалі сваіх дзяцей у беларускую школу, былі розныя. Старшакласнікі пераважна арыентаваліся на паступленне ў будучыні ў беларускія ВНУ. Я думаю, што сёння існуе ўжо сукупнасць прычын, па якіх бацькі аддаюць перавагу беларускай школе. Але, мабыць, яшчэ нельга сказаць, што на першае месца выступаюць патрыятычныя пачуцці. Трэба прызнаць, што ў побыце беларускай мовай тут, як і ў Беларусі, мала хто карыстаецца. Я кажу пра літаратурную мову, хаця дыялектны варыянт шырока распаўсюджаны. У Літве на сённяшні дзень каля 59 тысяч зарэгістраваных беларусаў. Гэта трэцяя па колькасці нацыянальная меншасць краіны. Але нягледзячы на гэта, калі мы пачыналі працаваць, то даводзілася прабіваць сцяну непаразумення: і для беларусаў, і для літоўцаў, асабліва для чыноўнікаў. Яны часта здзіўляліся, чаму раптам з'явіліся беларусы, якія хочуць уласную школу. На жаль, беларусы не ўспрымаліся як самастойная нацыя, іх адносілі або да рускіх, або да палякаў. І я думаю, менавіта адраджэнне літоўскай нацыянальнай годнасці, якое пачалося ў часы перабудовы, паспрыяла таму, што пачаў аднаўляцца і беларускі рух у Літве. Безумоўна, штуршком для аднаўлення сістэмы беларускай адукацыі стала дзейнасць Таварыства беларускай культуры, клуба аматараў народнай творчасці і іншых суполак.

**— Хто сёння вучыцца ў вас? Ці шмат сярод студэнтаў выпускнікоў беларускай школы?**

— На сённяшні дзень мы маем ужо два выпускі. Праўда, не ўсе выпускнікі працуюць у сферы беларускай культуры: на жаль, для ўсіх у беларускіх асяродках не хапае месцаў і яны пакуль застаюцца незапатрабаванымі. Ёсць і выпускнікі школы. Напрыклад, на чацвёртым курсе вучацца тры чалавекі з беларускай школы. Яны хутка таксама стануць выпускнікамі. А на першы курс летась паступілі, мабыць, сем чалавек. Прычым гэта выпускнікі не толькі мінулага года, але і папярэдніх. Астатнія, калі можна так сказаць, людзі выпадковыя, якія прыйшлі па розных прычынах. Адны маюць беларускія карані, другія — цікаўнасць, трэцця проста хочуць атрымаць дыплом. У асноўным да нас ідуць выпускнікі рускіх школ, якія, праўда, зусім не ведаюць беларускай мовы. Яны думаюць, што беларуская мова вельмі

## ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ ДАСЛЕДЧЫКА

# ПРЫГОДЫ «НЯЧЫСЦІКА»,

## або КОЛЬКІ СЛОЎ ПРА БЕЛАРУСКА-АНГЛІЙСКІЯ СУВЯЗІ Ў СЯРЭДЗІНЕ XIX СТАГОДДЗЯ

**● Ігар ЗАПРУДСКІ.**

На сённяшні дзень у беларускім літаратуразнаўстве ў той ці іншай ступені вывучаны беларуска-рускія, беларуска-польскія, беларуска-ўкраінскія і беларуска-літоўскія літаратурныя сувязі ў XIX стагоддзі. Але, на жаль, няма даследаванняў і нават больш-менш прыкметных публікацый пра засваенне тагачаснымі беларускімі пісьменнікамі мастацкіх традыцый іншых, перадусім неславянскіх еўрапейскіх літаратур. Хаця аналіз не вельмі багатай фактуры, напрыклад, беларуска-англійскіх літаратурных сувязей, дазваляе гаварыць пра вельмі цікавы характар іх узаемадзеяння.

Даўно вядомы такі факт: у Лондане ў 1852 годзе ўдзельнік паўстання 1830—1831 гадоў, паэт і перакладчык з Віцебшчыны Аляксандр Рыпінскі напісаў сваю беларускую рамантычную баладу "Нячысцік". За кароткі прамежак часу ён тройчы ў эміграцыі апублікаваў яе тэкст і нават выдаў асобнай брашурай ва ўласнай лонданскай друкарні. У 1853 годзе ім была зроблена няўдалая спроба надрукаваць гэты твор і на радзіме. Асобнае выданне балады было з прадмовай аўтара, дзе ён тлумачыў, якім чынам "Нячысцік" з'явіўся на свет. Гэты даволі буйны твор узнік па выніку намеру аўтара апрацаваць беларускую жартоўную песеньку пра лгуна Мікіту, якая звычайна выконвалася на адпаведны матыў у час хлапечых танцаў. Прывёўшы пачатак гэтай песні, А. Рыпінскі далей сцвярджаў: "Не знайшоўшы ў ёй ніякага сэнсу, уключыў яе ў мой "Збор Песняў Беларускіх"; хацеў яе падправіць крыху і надаць нейкую маральную мэту". Аднак надзвычайная яе кароткасць, гэтая неадступная спадарожніца казачкой, а таксама пастаянны паўтор аднастайнага звароту не дазволілі мне пераўтварыць яе ў першапачатковай форме; але, раз узяўся за тую работу, — атрымалася доўгая аповесць, да якой дадаў крыху дзівачнага, крыху пякельнага і зрабіў з гэтага сялянскую баладу і тут яе сваім Чытачам прапаную". Аўтар адкрыта прызнаецца ў імкненні "падправіць крыху" аўтэнтычны фальклорны тэкст, у выніку чаго "атрымалася доўгая аповесць", ці сялянская балада. У дадзеным выпадку штуршком для стварэння арыгінальнага мастацкага твора на беларускай мове стаў адпаведны фальклорны ўзор, з якога былі ўзяты хіба што ўласнае імя героя ды рытмічная арганізацыя тэксту.

А. Рыпінскі ў прадмове таксама канстатаваў, што "Нячысцік" — гэта яго "першая спроба, напісаная ў гэтым дыялекце, хаця ўжо ў выдадзеным да гэтага часу зборы... "Песняў Беларускіх", а менавіта ў томе другім і наступных, якія яшчэ знаходзяцца ў друку, не да адной з іх там, дзе трэба было, нязначна дакрануўся ўласным пяром". Гэтае паведамленне літаратара і выдаўца цікавае па некалькіх прычынах. Папершае, пачатак арыгінальнай творчасці А. Рыпінскага на беларускай мове супадае па часе з набыццём ім у Лондане друкарні, калі з'явілася рэальная магчымасць апублікаваць любыя свае літаратурныя творы. Па-другое, пра шматтомнае выданне "Песняў Беларускіх" за мяжою не згадваецца ў бібліяграфічных даведніках, хаця выдадзены і сцвярджаў, што першы том нібыта быў ужо выдадзены. Патрэцяе, на аснове якіх запісаў А. Рыпінскі, у той час ужо 20 гадоў адарваны ад радзімы, збіраўся запаўняць гэтыя тамы? Мяркую, што "запасаў" памяці, якія сталі крыніцаю фальклорных тэкстаў для выдадзенай у 1840 годзе ў Парыжы кнігі "Беларусь...", наўрад ці хапіла б для некалькіх тамоў. Па-чацвёртае, прызнанне ў рэдагаванні тэкстаў народных песень для названага выдання наводзіць на думку, што туды маглі трапіць і вольныя перапрацоўкі фальклорных узораў, і нават творы аўтарскага паходжання, стылізаваныя пад фальклор. У прадмове да балады "Нячысцік" аднязначна засведчана самім аўтарам, што адносіны да фальклорных крыніц у А. Рыпінскага, на доўгія гады пазбаўленага непасрэднага кантакту з носьбітамі вусна-паэтычных народных скарбаў, былі далёкімі ад педантычнага пурызму. Фармулёўка "нязначна дакрануўся ўласным пяром" — вельмі неакрэсленая. Скажам, памяняць у тэксце парадак слоў, нават замяніць некаторыя з іх — гэта адно, але надаваць усяму твору "нейкую маральную мэту" — гэта зусім іншае.

Ёсць вось такі вельмі неардынарны факт у гісторыі беларускай літаратуры XIX стагоддзя. І трэба прызнаць, што да сённяшняга часу ён застаецца неасэнсаваным. На першы погляд, ён увогуле выглядае даволі алагічным пры супастаўленні з іншымі фактамі літаратурнага працэсу на Беларусі. Здавалася б, не зусім зразумела, навошта было выдаваць у 50-я гады ў Лондане, дзе беларускую мову ведалі адзінкі, беларускія песні. Незадоўга перад гэтым Ян Чачот надрукаваў шэсць выпускаў сваіх фальклорных зборнікаў на бацькаўшчыне. Ён меў даволі разгалінаваную сетку збіральнікаў і інфарматараў, мог сам, выйшаўшы на вуліцу, весці запісы народных твораў. Такіх умоў у А. Рыпінскага ў Лондане, зразумела, і блізка не было.



# ЗАЙМАЮЦЦА ПРАФЕСІЯНАЛЫ

блізкая да рускай. Таму для іх на першым курсе мы даём так званую лінгватэрапію — у першым семестры вучым іх чытаць, пісаць па-беларуску, каб яны маглі разумець мову і нармальна вучыцца ў далейшым. Вядома, ім лягчэй даецца навука. Летась да нас упершыню прыйшоў выпускнік польскай школы. У пачатку верасня гэтаму чалавеку было вельмі цяжка, але сёння я бачу ў яго ведах вялікі прагрэс.

**— Я чуў, што ў вас ёсць і платнае аддзяленне для грамадзян Беларусі.**

— Так, другі год мы набіраем студэнтаў з Беларусі на платнай аснове на завочнае навучанне. Яны прыязджаюць у Вільнюс два разы на год на сесію. Пераважна гэта людзі, якія даўно скончылі школу. Яны прыходзяць вучыцца таму, што бачаць у гэтым нейкі свой асаблівы інтарэс. Акрамя спецыяльнасці беларуская філалогія, мы прапануем ім дадатковыя спецыяльнасці, у тым ліку рускую філалогію, польскую філалогію, гісторыю культуры, журналістыку і методыку пачатковага навучання. Але па дадатковай спецыяльнасці звычайна падпісваецца яшчэ адзін кантракт, які прадугледжвае дадатковую аплату і яшчэ адну сесію. На сённяшні дзень у нас вучыцца 14 студэнтаў-завочнікаў з Беларусі на другім курсе і 18 — на першым.

**— А хіба нельга атрымаць спецыяльнасць у Беларусі?**

— Я думаю, што навучанне ў нас адметнае і мае шмат плюсаў. Па-першае, акрамя вучобы, адбываецца знаёмства студэнтаў з Літвой, з яе культурай, паколькі для студэнтаў прадугледжана шмат спецкурсаў. Яны могуць атрымаць пэўныя веды пра Літву ці, напрыклад, вывучыць літоўскую мову. Падругое, яны, са свайго боку, прэзентуюць тут Беларусь. Маладзі з Літвы, дарэчы, цікава сустракацца з нашымі студэнтамі. Па-трэцяе, праходзячы навучанне ў Вільнюсе, многія студэнты атрымліваюць доступ да мясцовых бібліятэк, багатых на беларускія матэрыялы. Гэта дазваляе ім займацца і нейкай навуковай дзейнасцю, усталёўваць прафесійныя сувязі. У рэшце рэшт, яны маюць права на бясплатную візу на час навучання.

**— Вядома, ваша дзейнасць была б немагчымай без падтрымкі літоўскай дзяржавы. У чым яна заключаецца?**

— Мы — структурнае звяно універсітэта. Такім чынам, Літва дае нам заробтную плату, дзяржава фінансуе наборы студэнтаў, дае ім стыпендыю. Але мы не вылучаемся сярод іншых кафедраў універсітэта. Асобага фінансавання няма. Дарэчы, у нас былі вельмі цяжкія часы, нават узнікала пытанне аб ліквідацыі нашай кафедры. Гэта было ў 1997 годзе. Мы выпусцілі два курсы, і ў нас заставаўся яшчэ адзін курс, бо пасля набору ў першыя тры гады атрымаўся двухгадовы перапынак. Таму ў 1997 годзе было падпісана пагадненне паміж Міністэрствамі адукацыі і навукі Літвы і Беларусі, паводле якога пытанне дзейнасці нашай кафедры выведзена на дзяржаўны ўзровень. Далей зноў быў набор на першы курс. Але штогод перад намі ўзнікаюць ранейшыя пытанні: ці дадуць нам набор студэнтаў, ці будзе для нашых выкладчыкаў нагрузка? Дзякуючы актыўным дзеянням беларускага пасольства, а таксама Міністэрства адукацыі і навукі, цяпер у дамове паміж міністэрствамі ёсць асобныя артыкулы адносна нашай кафедры. Вырашана, што набор будзе адбывацца адзін раз у тры гады. Мы выступілі ініцыятарамі стварэння кафедры літуаністыкі ў Мінску. Прыемна, што летась у Мінскім педуніверсітэце ўжо пачала дзейнічаць група студэнтаў, якая вывучае літоўскую мову. На парытэтных асновах мы мелі фінансаванне з боку Літвы, а Беларусь, у сваю чаргу, фінансавала навучанне гэтай літоўскай групы. Паводле пагаднення плануецца ў перспектыве стварэнне на базе нашай кафедры Цэнтра беларусістыкі і адпаведна стварэнне ў Мінску Цэнтра літуаністыкі.

**— І што ўжо зроблена ў гэтым накірунку?**

— Юрыдычна пакуль не зроблена нічога. Але мы хадайнічалі перад Міністэрствам адукацыі і навукі Беларусі і пасольствам Беларусі ў Вільнюсе, каб гэтае пытанне было вынесена на разгляд двухбаковай камісіі, якая займаецца рэалізацыяй памянёнага пагаднення. Гэтая камісія збіраецца два разы на год. Яна, я думаю, у стане вырашыць пытанне аб стварэнні Цэнтра беларусістыкі, бо пытанне з наборам было вырашана станоўча. Такім чынам, наша жыццё на сённяшні дзень цалкам залежыць ад міждзяржаўных пагадненняў паміж Беларуссю і Літвой і, зразумела, ад стану добрасуседскіх сувязей.

**— А як ставіцца Літва да таго, што беларусы актыўна займаюцца адукацыйнымі праграмамі на высокім узроўні? Ці адчуваеце вы, што літоўская дзяржава не толькі знешне падтрымлівае беларускую дыяспару, але і гатова на нейкія грунтоўныя, фундаментальныя даследаванні ў галіне развіцця беларускай культуры?**

— Мы таму і прапанавалі стварыць Цэнтр беларусістыкі, бо лічым актуальнай праблему даследавання памежнага рэгіёна. У 1997 годзе мы выступалі суарганізатарамі навуковай канферэнцыі "Культура беларуска-літоўскага памежжа", якую праводзілі разам з Міжнароднай акадэміяй вывучэння нацыянальных меншасцей і Рэспубліканскім цэнтрам нацыянальных культур з Беларусі. З літоўскага боку ўсе выдаткі на сябе ўзяў Дэпартамент па справах нацыянальнасцей. За гады нашага існавання гэта, мабыць, адзінае такое вялікае фінансавае ўкладанне ў беларусістыку па-за звычайнымі бюджэтнымі выдаткамі. Мы звярнуліся да дэпартамента, і яны не адмовіліся ад садзейнічання. Увогуле ён штогод выдзяляе пэўныя сумы для нацыянальных меншасцей, і гэтыя грошы цэнтралізавана ідуць на Згуртаванне беларускіх арганізацый. Мы, такім чынам, звяртаемся ўжо непасрэдна да згуртавання. Безумоўна, памер гэтых сродкаў не дазваляе нам праводзіць нейкія значныя даследаванні. Але мы распрацавалі праграму даследавання памежнага рэгіёна і па-ранейшаму выступаем з ініцыятывай стварэння Цэнтра беларусістыкі. Думаю, што можам атрымаць хаця б штатнае фінансаванне на ажыццяўленне нашых праектаў. Хаця, вы разумееце, каб правесці якую-небудзь экспедыцыю, зараз патрабуюцца вялікія сродкі. Але мы будзем шукаць іх як у Літве, так і ў Беларусі. Такім чынам, нейкага дадатковага фінансавання садзіка, школы ці кафедры не можа быць, бо беларусы ў Літве — гэта такая ж нацыянальная меншасць, як і шэраг іншых.

**Гутарыў Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

СВОЙ ПОГЛЯД



## ТОНЫ Ў ЯЕ РУЖОВЫЯ

Не ўсе, аказваецца, бачаць сённяшняе жыццё праз цёмныя акуляры. Вось таму і ўразіла многіх персанальная выстава Тацццяны Хілько, якая адкрылася ў зале Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф. Скарыны. Сінтэз жывапісу і фатаграфіі на яе карцінах прадстаўлены амаль толькі ў ружовых тонах. Выходзіць, правільна пяецца ў песні: яно бывае вельмі розным, наша жыццё. У Таццяны яно падобнае на свята. Як пагядзець...

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.**

ЛІТАРАТУРНЫЯ СУСТРЭЧЫ

**"Зацемкі зь левай кішэні" — разважаньні вядомага беларускага літаратара пра сябе, пра жыцьцё, пра творчасьць. Гэта й назіраньні з жыцьця менскага літаратурнага кола, у якіх багата якія вядомыя постаці выступаюць часам у нечаканым сьвятле.**

Леанід ГАЛУБОВІЧ

# ЗАЦЕМКІ ЗЬ ЛЕВАЙ КІШЭНІ

* * *

Калі я гавару ці думаю пра паэзію, то я гавару і думаю пра сябе.

* * *

Ноч... Сум, самота, роздум... І так хочацца напісаць верш, ажно рукі сьвярбяць! І ведаю — што змагу. Аднак падсьвядома нейчы голас мне кажа: без майго ведама і дазволу ня псуй паперу. Дзіўна. А калі паспрабаваць аслухацца? Перастуціць яго волю? Перастуціць Слова? На жаль, бывае і так...

* * *

Разьлітыя каляровыя фарбы — самі па сабе — ужо ёсьць семя мастацтва. І трэба мець толькі своеасаблівае вока (бачаньне), каб распазнаць (разгледзець) у гэтай разьлітай густой пляме вобраз нашае цывілізацыі... Гэта тычыцца ня толькі фарбаў, але і каменю, і слоў, і гукаў — усяго таго, без чаго чалавек ня ў стане стварыць мастацкі вобраз. Магчыма, вышэйшая праява мастацтва не ў гармоніі, а ў хаосе...

* * *

Я стаю за тваімі вейкамі — ты ня бачыш мяне...

**(радок зь ненапісанага верша)**

* * *

Адзіны сябра твой — Роздум — насьміхаецца над поўнай чаркай тваёго адчаю...

**(згадваючы паэта Купрэева)**

* * *

У пісьменьніцкай сям'і грэбуюць беларускай мовай. І нават сам пісьменьнік іграе гэткую ролю беларуса ў сям'і, як выпадковы артыст у рускім тэатры імя Горкага. Што і гаварыць, ня соладка жыць беларускаму пісьменьніку! А якое жыцьцё — такое і пісаньне...

* * *

Да выказваньня "Паэты паміраюць рана" я дадаў бы: "Але многія яшчэ доўга пішуць".

* * *

Купрэеў даслаў у канвэрце разам зь лістом тры восеньскія лісточкі зь Белавежскае пушчы для дачкі... На такое здольны, бадай, яшчэ Толя Сыс. Хоць, па першым уражаньні, якраз ад іх такога і прадбачыць немагчыма.

* * *

Калі напісанае ёсьць пражытае, то яго шкада, як жыцьця...

**(роздум над ненапісаным)**

* * *

У кожнага чалавека, на жаль, адно жыцьцё, але — дзякаваць Богу — і адна сьмерць.

* * *

Усё цяжэй прагаворвацца вершамі, спатыкаешся, ідучы ў традыцыйным рытме. Ня сьвет спачувае табе, а ты — яму...

* * *

Кніжкі — для ўсіх, вершы — для паэтаў, паэзія — для абраных.

* * *

Паэзія і проза ёсьць дзяцінства і старасьць, здагадка і ўспамін. Гётэ ня зьвёдаў старасьці і памёр маладым, а Купала "памёр" ад старасьці...

* * *

Калі ноччу глядзіш у заваконную цемру — ты ўжо нажыўся.

* * *

Нядаўна на Маскоўскіх могілках паставілі помнік Жэні Янішчыц. Ён як бы адштурхоўваецца ад магілы і разам з тым цісьне на яе сваім цяжарам, прызямляючы маю памяць... А побач — магіла скульптара Анікейчыка: убітая ў зямлю рамачка з фотапартрэтам і надпісам і ані каліва каменя, граніту, бронзы... Адсутнасьць помніка ёсьць геніяльны помнік скульптару! Ня кожны зразумее, але хіба на могілках трэба нешта разумець?! На могілках трэба здагадвацца. Ну, хоць бы пра помнік самому сабе, які Анікейчыку бачыўся... І вось я стаю тут і дадумваю яго, гэты помнік...

* * *

Дзякаваць Богу, час не прыпыняецца нават пасьля сьмерці генія, але... асэнсоўваецца.

* * *

Лістапад, а табе за сорак... Восень нарэшце мае ўсе правы на мой час, дух і плоць... Жывучы гэтым разуменьнем, нават халодную імжу ўспрымаеш спагадліва і прачула..

---

Што ж магло тады нарадзіць у яго такую грандыёзную ідэю — выдаць шматтомны збор беларускіх песень?

Рэальная практыка падказвае, што знайсці прамы адказ у лістах А. Рыпінскага або асоб, якія перапісваліся з ім, ці мемуарах, дзе апісвалася б жыццё лонданскіх беларусаў-эмігрантаў, даволі праблематычна. Тым больш малаверагодна, каб некалі адшукаўся хаця б першы том гэтых загадкавых "Песняў Беларускіх". Мабыць, іх напаткаў той жа лёс, што і трэці паэтычны зборнік Ф. Багушэвіча "Скрыпка беларуская", пра які паведамлялася ў друку, што ён быў выпушчаны з партрэтам аўтара, але ніводнага экземпляра дагэтуль не адшукана. Увогуле, фактычны бок гэтай справы наўрад ці калі-небудзь будзе акрэслены з вычарпальнай паўнатой.

А. Рыпінскі плённа займаўся паэтычным перакладам з англійскай мовы на польскую. Зробленае ім у гэтай галіне і сёння ў Польшчы ацэньваецца значна вышэй за яго арыгінальную польскамоўную паэзію.

Несумненна, культываванне нацыянальнай самабытнасці прыгнечаных шатландскага і ірландскага народаў у творчасці Р. Фергюсона і Т. Мура імпанавала ўдзельніку вызваленчага паўстання А. Рыпінскаму і не магло не зрабіць уплыву на светапогляд і творчыя прынцыпы іх перакладчыка. Больш таго, мы, відаць, маем справу з канкрэтнай праявай беларуска-англійскага літаратурнага ўзаемадзеяння, калі некаторыя бакі мастацкага вопыту Т. Мура, увасобленыя ў "Ірландскіх мелодыях", маглі так моцна ўздзейнічаць на аўтара "Нячысціка", што спарадзілі ў яго намер рэцэпцыі наватарскіх падыходаў ірландскага паэта і рэалізацыі іх ужо на аснове беларускага матэрыялу. Верагодна, менавіта так магла ўзнікнуць ідэя выдання "Песняў Беларускіх". У сувязі з гэтым і матывы самога пачынання выкліканы, мабыць, жаданнем шырэй пазнаёміць свет з Беларуссю і яе народам, каб, можа, у будучыні ў цыкле кшталту мураўскіх "Песняў народаў" побач з раздзеламі, прысвечанымі іншым славянскім народам, з'явіўся і беларускі. Праблема ўвядзення беларускай літаратуры ў кантэкст развіцця еўрапейскіх неславянскіх літаратур паўстала шмат раней нашаніўскага перыяду, прынамсі, спробы ў гэтым кірунку рабіліся ўжо ў сярэдзіне XIX стагоддзя. Так, аўтар мемуараў "Аповесць з майго часу, або Літоўскія прыгоды", выдадзеных у друкарні А. Рыпінскага ў Лондане ў 1854 годзе, свядома сустаўляў трагічны лёс беларускага сялянскага паэта Пётрака з Крашына, аўтара хрэстаматыйнага верша "Зайграй, зайграй, хлопча малы...", з больш шчаслівым у творчых адносінах жыццём не кагонебудзь, а менавіта Роберта Бёрнса. Зусім не выпадкова ў мемуарах праводзілася такая паралель: "Бёрнс, парабак англійскі, пры менш цяжкіх акалічнасцях, уласным талентам, не падтрыманым ніякай навукай, забяспечыў сабе неўміручае імя, а сваёй сям'і — пашану і дастатак; Пётрак з Крашына за талент, дадзены яму ад Бога, зазнаў самае жорсткае няшчасце!" І гэта вельмі паказальна.

Такім чынам, ужо на пачатковым этапе станаўлення беларускай літаратуры фактар сувязі яе з еўрапейскімі літаратурамі, у тым ліку англійскай, меў канкрэтныя і адметныя праявы. У сярэдзіне XIX стагоддзя некаторыя пачынальнікі роднай літаратуры думалі і дбалі пра ўвядзенне яе ў шырокі еўрапейскі культурны кантэкст. І гэта не магло не гарантаваць ёй у будучыні плённага развіцця.

## ВЫСТАВЫ





# «КВЕТКІ ПАПАНДОС»

Такую назву носіць выстава творчай групы маладых мастакоў з Гомельскага мастацкага вучылішча, якая працуе ў накірунку авангарда і сюррэалізму. Хаця літаральна гэта азначае "каляровыя карцінкі ні пра што", тут паглядзець ёсць што. Каля сотні палотнаў маладых аўтараў уражваюць своеасаблівым бачаннем свету, які акружае нас. Прычым, выкананы работы на досыць высокім прафесійным узроўні. Маладыя мастакі — студэнты вучылішча ўжо другі раз выстаўляюцца ў такім складзе.

НА ЗДЫМКАХ: група "Кветкі Папандос" у складзе Алы РАМАЗАНАВАЙ, Ганны КУРАШОВАЙ, Кацярыны БУШЫНСКАЙ і Вадзіма СТРАЛЬЧЭНІ перад адкрыццём выставы; "Антычная Кора і прыставучыя мушкі"; нацюрморт.



**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

## БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ

### КЛЁЦКІ БУЛЬБЯНЫЯ З МЯСАМ

Надзёртую сырую бульбу адціснуць, дабавіць муку, соль, перамяшаць. З атрыманай масы сфармаваць клёцкі прадаўгаватай формы, начыніць іх мясным фаршам і абсмажыць на масле. Затым перакласці ў качачніцу, заліць смятанай і паставіць у духоўку на 20—25 хвілін.

*12 бульбін, 2 сталовыя лыжкі мукі, 1 сталовая лыжка масла, 0,5 шклянкі смятаны, соль.*

**Мясны фарш:** мякаць свініны прапусціць праз мясарубку, дабавіць абсмажаную цыбулю, соль, перац і ўсё перамяшаць.

*400 грамаў свініны, 2 цыбуліны, 1 сталовая лыжка масла, перац, соль.*

### МАЧАНКА ПА-СЯЛЯНСКУ

Свініну і сялянскую каўбасу нарэзаць на кавалкі і падсмажыць.

Муку (пшанічную) развесці халоднай вадой, паступова ўліваць у гарачую ваду, бесперапынна памешваючы, пакуль не атрымаецца рэдкая мучная падліўка. Дабавіць лаўровы ліст, сельдэрэй, соль, дробна нарэзаную і падсмажаную цыбулю, кавалкі сала, свініны і сялянскай каўбасы. Паставіць на 20—25 хвілін у духоўку.

Гатовую мачанку падаць з блінамі ці варанай бульбай.

*250 грамаў мяса, 200 грамаў сялянскай каўбасы, 2 цыбуліны, 100 грамаў сала, 1,5—2 сталовыя лыжкі мукі, лаўровы ліст, сельдэрэй, соль.*

### ПЕЛЬМЕНІ БУЛЬБЯНЫЯ СА СМЯТАНАЙ

У надзёртую сырую бульбу дабавіць муку, соль і перамяшаць. Мяса прапусціць праз мясарубку, дабавіць сырое яйка, абсмажаную цыбулю, соль і перамяшаць. Бульбяную масу раздзяліць на невялікія аладкі, на сярэдзіну пакласці мясны фарш і злучыць бакі. Вырабы адварыць у падсоленай вадзе і падаць са смятанай.

*12 бульбін, 2 сталовыя лыжкі мукі, 3—4 сталовыя лыжкі смятаны, соль.*

**Мясны фарш:** рыхтуецца, як і ў папярэднім рэцэпце.

## СА СКАРБНІЦЫ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ БІБЛІЯТЭКІ

Напрыканцы 1999 года выдавецкае прадпрыемства "Беларускі кнігазбор" надрукавала кнігу "**Беларуская рэлігійная дзеячы XX стагоддзя. Жыццяпісы. Мартыралогія. Успаміны**". Гэта кніга ў сціслай, амаль энцыклапедычнай форме, а таксама ў выглядзе архіўных дакументаў, вытрымак з малараспаўсюджаных, амаль невядомых чытачу публікацый распавядае пра жыццё, рэлігійна-царкоўную дзейнасць і лёс удзельнікаў беларускага хрысціянскага руху XX стагоддзя. Укладальнікам змешчаных матэрыялаў з'яўляецца Ю. Гарбінскі. Навуковую апрацоўку матэрыялы выдання праходзілі ў Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Францішка Скарыны.

Патрэба ў такім выданні адчувалася на Беларусі вельмі даўно. Беларускі хрысціянскі рух налічвае не адно стагоддзе, але пра большую частку яго дзеячаў першай паловы XX стагоддзя — святароў, удзельнікаў рэлігійна-царкоўнага руху, свецкіх рэлігійна-грамадскіх дзеячаў мы ведаем яшчэ зусім мала. Складаныя лёсы ў гэтых людзей, часам цяжкім, супярэчлівым было іх жыццё, для многіх пакутніцкім быў яго канец. У прадмове да выдання аўтар-укладальнік разважае пра набыткі беларускага хрысціянскага руху XX стагоддзя, аналізуе гістарыяграфію пытання, гаворыць пра канфесійны перыядычны друк. Храналагічна даведнік ахоплівае перыяд ад пачатку XX стагоддзя да 1998 года, калі беларускае нацыянальна-рэлігійнае жыццё зараджалася ў рамках Расійскай імперыі, развівалася пасля Рыжскага мірнага дагавора 1921 года ў межах Заходняй і Усходняй Беларусі і на эміграцыі, а пасля распаду СССР на постсавецкай прасторы.

Па змесце кніга складаецца з трох частак. У першай — біяграфіі 182 удзельнікаў беларускага хрысціянскага руху XX стагоддзя — святароў і свецкіх дзеячаў праваслаўнага, каталіцкага і пратэстанцкага веравызнанняў. Амаль да кожнай персаналіі дадаецца фотаздымак. Частка з гэтых здымкаў уводзіцца ў шырокі ўжытак упершыню, і знайсці іх часам было вельмі і вельмі складана. Другая частка кнігі ўключае ўспаміны, публікацыі, нарысы, эсэ розных людзей пра беларускіх рэлігійных дзеячаў XX стагоддзя. Гэтыя матэрыялы ў пераважнай большасці з'яўляюцца перадрукам з беларускіх грамадскіх, рэлігійна-царкоўных выданняў Заходняй Беларусі і ўвогуле беларускага замежжа, такіх, як "Божым шляхам", "Царкоўны сьветач", "Бацькаўшчына", "Беларус" і іншыя, якія ці вельмі мала, ці амаль невядомыя шырокаму чытачу. Вялікую цікавасць для даследчыкаў уяўляе сабой трэцяя частка выдання, куды ўваходзяць крыніцы, руплiва сабраныя ў архівах Мінска, Вільні, Рыгі, Варшавы, Санкт-Пецярбурга. Архівы Мінска прадстаўлены матэрыяламі Беларускага дзяржаўнага архіва літаратуры і мастацтва, архіва Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь, Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь і некаторымі іншымі. У ліку гэтых дакументаў пасведчанні, метрычныя лісты, службовыя і дакладныя запіскі, атэстаты аб атрыманні адукацыі, прашэнні, старонкі з фармулярных спісаў, спісы выхаванцаў рэлігійных навучальных устаноў, ведамасці паспяховасці студэнтаў — унікальныя дакументы, якія тычацца лёсу беларускіх хрысціянскіх дзеячаў. Грунтоўнае пасляслоўе да выдання "Пакутнікі за веру і Бацькаўшчыну", аўтарам якога з'яўляецца У. Конан, падкрэслівае важнасць выхаду кнігі "Беларуская рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя" для вывучэння гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі, для вяртання хрысціянскай царквы ў кантэкст гісторыі і культурна-нацыянальнай традыцыі беларусаў. У канцы кнігі змешчаны імянны паказальнік, спіс асноўных скарачэнняў. Напрыканцы застаецца толькі пашкадаваць, што такое цікавае ў навуковым і пазнавальным сэнсе выданне надрукавана вельмі невялікім тыражом.

**Ларыса ЯЗЫКОВІЧ.**

* * *

Калі вы любіце не толькі беларускую гісторыю, але і паўсміхацца падчас чытання, я вельмі рэкамендую вам пазнаёміцца з кніжкаю Бутрамеева "**Карона Вялікага княства**", выдадзенай у Маскве на рускай мове ў 1999 годзе. Па сутнасці, гэта не адна кніжка, а некалькі пад адной вокладкай. Асноўны аповед — прыгодніцка-авантурны — з гісторыі ВКЛ і Францыі XVII стагоддзя, у якім гісторыя перамешана з містыфікацыямі зусім у духу Свіфта, потым нейкая miscellanea на палях, пачынаючы з жыццяпісу Аляксандра Дзюма-бацькі, нататкі з літаратурных і палітычных падзей былога СССР, кулінарных рэцэпты. Апошняя частка — "каментарый" быццам бы іншай асобы. Усе "кніжкі" напісаны надзвычай талenавіта, з іскрамётным гумарам. Нават здзіўляешся, як у наш цяжкі час мог з'явіцца такі вясёлы твор. Пры жаданні вы можаце чытаць кніжкі асобна адну ад адной, калі фантазій аўтара для вас зашмат, каб пераварыць іх усе адразу, але знайдзіце і кнігу, і час, каб пазнаёміцца з таленавітым пісьменнікам-гісторыкам. Не пашкадуеце.

**Ірына КУРТАТАВА.**

## ДЗІЦЯЧАЯ ЧЫТАНКА

# МЕНЕСК

**"Паданне — гэта той**
**чароўны бліск,**
**які высвечвае старое слова,**
**імя старое... Іскрай**
**з-пад падковы —**
**Менеск! А потым — Менск...**
**А потым — Мінск,..."** —

пісала Таіса Бондар, разважаючы над тым, адкуль узнікла назва беларускай сталіцы. Зараз нельга даць адназначны адказ на гэта пытанне: вельмі шмат часу мінула з той пары, як нашы далёкія продкі пачалі сяліцца на беразе ракі Свіслач. Але з сівой мінуўшчыны дайшлі да нас шматлікія легенды аб цудадзейным асілку, ад якога быццам і пачалася гісторыя Мінска. Звалі гэтага волата і чарадзея Менеск.

"Між Татарскім канцом і Пярэсінскім мастком, ля самага Віленскага паштовага шляху, некалі пасяліўся славуты асілак-знахар па празванні Менеск, ці Менскі, і пабудаваў на Свіслачы вялікі каменны млын на сем колаў. Ніхто самога Менеска не бачыў, тым не менш у наваколлі чуваць былі самыя фантастычныя расказы пра яго сілу. Кажуць, што ў яго млыне мука малолася не з жыта, а з камення, што ўначы чуліся нейкія дзіўныя крыкі, песні, музыка і скокі, што апоўначы ездзіў ён на сваім млыне па сялішчах і набіраў дружыну з харобрых, дужых людзей, з якіх пазней утвары́ўся цэлы народ і пасяліўся побач з млыном. Тут і быў заснаваны горад і названы імем волата — Менск".

Так тлумачыла народнае паданне сэнс гэтай назвы. А вось што думаюць на гэты конт вучоныя. Спачатку доўга існавала думка, што назва горада Менск ідзе ад слова мена. Нібы ў тым месцы, дзе рака Няміга ўпадала ў Свіслач, ішоў вялікі торг, купцы мянялі свае тавары, нападжвалі мены.

Аднак пасля археолагі высветлілі, што першапачаткам горада было паселішча на рацэ Менка, або Мень (ад назвы рыбы мень, якая ў ёй вадзілася). Затым ад назвы ракі і далі імя гораду — Менск, Меньск. Пазней, у XVII стагоддзі, калі горад апынуўся ў складзе Рэчы Паспалітай, паляки пачалі пісаць яго назву праз літару "і" — Міньск. Да старажытнай назвы Менск вярнуліся ў 1919 годзе, аднак з 1938 года і да цяперашняга часу сталіцу Беларусі мы зноў называем Мінскам...

**Падрыхтавала Нэлі ПРЫВАЛАВА.**



Сучасныя "вароты" Мінска.


**«Голас Радзімы»**

**Галоўны рэдактар Наталля САЛУК**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:

Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".

РЭДАКЦЫЯ:

Намеснік галоўнага рэдактара Галіна УЛІЦЁНАК.
Адказны сакратар Таццяна КУВАРЫНА.
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі Яўген ЛЕЦКА.
Рэдактар аддзела Алена СПАСЮК.
Аглядальнікі Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ, Таццяна ХРАПІНА.
Спецыяльныя карэспандэнты Нэлі ПРЫВАЛАВА, Віктар СТАВЕР.
Рэдактар-перакладчык Святлана КАРПУЧОК.
Стыльрэдактар Ірына КАЗЛОВА.
Тэхнічны рэдактар Данута РАКАВЕЦ.

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97 (тэл.-факс), 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 828 экз.
Зак. 949.
Падпісана да друку 10.4.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).